# ЗЬМЕСТ.



---

## Усім райінспэктарам Нар. Асьветы і загадчыкам школ.

**Рэдакцыя часопісу „Шляхі Каляктывізацыі“ зьвяртаецца з просьбай да Вас хутчэй зрабіць заказ на высылаемую школам часопіс „Шляхі Каляктывізацыі“ з 1-га ліпеня 1929 году. Пры заказе прысылаць адрасы і належную падпісную плату, пасьля чаго часопіс будзе пасылацца непасрэдна ў школы, а не на імя райінспэктароў, як робіцца да гэтага часу.**

**Просьба прыняць удзел у дасылцы матар'ялу ў часопіс і распаўсюджваньні часопісу сярод сялянства.**

**К „Дню ўраджаю і каляктывізацыі“ рэдакцыяй выпускаецца спэцыяльны нумар часопісу, на які просьба хутчэй зрабіць заказ.**

*Рэдакцыя.*

Друкарня „БДВ“. Заказ № 3741. 10.000 экз. Галоўлітбел № 2733.

ШЛЯХІ КАЛЯКТЫВІЗАЦЫІ

ЧАСОПІС КАЛЯКТЫВІЗАЦЫІ, ВЫТВОРЧАГА С.-Г. КААПЭРАВАНЬНЯ І АГРАНАМІЗАЦЫІ НАСЕЛЬНІЦТВА

ВЫДАНЬНЕ НАРКАМЗЕМУ БЕЛКАЛГАССАЮЗУ І БЕЛСЕЛЬСАЮЗУ БССР

Выходзіць раз у месяц

№ 3 | Верасень | 1929 г.

# Пастановы Пленуму ЦК КП(б)Б аб калгасным будаўніцтве.

*(З прамовы т. Гамарніка на пленуме ЦК КП(б)Б).*

„Трэба, каб уся партыя ўцягнулася ў справу калектывізацыі, каб уся партыя ўсьвядоміла ўсё гіганцкае, выключнае, рашаючае для Беларусі значэньне калектывізацыі сельскае гаспадаркі за калгас—пад гэтым баявым лёзунгам, сьцягам трэба сабраць усю партыю, рабочую клясу і бядняцка-серадняцкія масы вёскі. Няхай усе партарганізацыі павернуцца тварам да калгаснага руху!..“

*Гамарнік.*

Толькі некалькі дзён таму назад, як закончыў сваю працу Пленум Цэнтральнага Камітэту Камуністычнае Партыі Беларусі, які падвёў вынікі саўгаснага і калгаснага будаўніцтва, адзначыў недахопы і намеціў шляхі далейшага разьвіцьця гэтага сацыялістычнага сэктару сельскае гаспадаркі.

Лёзунг XV Зьезду ЎсеКП(б)Б: „Вёска—уперад да буйнага калектыўнага земляробства“ і лёзунг XII Зьезду КП(б)Б—„З усёй сілай і энэргіяй праводзіць работу па ўзмацненьні і ўзбуйненьні калгасаў і саўгасаў і па рашучым разгортваньні калгаснага будаўніцтва, як рашаючага шляху, які забясьпечвае магутны ўздым бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і соцыялістычную рэканструкцыю ўсяе сельскае гаспадаркі“, добра ўсьвядомлены бядняцка-серадняцкімі масамі вёскі, якія зараз шпаркім тэмпам перабудоўваюць сваю індывідуальную гаспадарку ў калектывы.

Аб гэтым шырокім руху сялянства ў калгасы яскрава сьведчаць лічбы, якія Пленум разглядаў і якія ў некалькі разоў перавысілі ўсе плянавыя меркаваньні як плянуючых, так і практычна праводзіўшых працу органаў. Так, калі плянам вызначалася калектывізаваць 52.800 *га* агульнае плошчы і арганізаваць 30 буйных калгасаў на плошчы ад 200 да 500 *га*, дык за 10 месяцаў працы г. г. да Пленуму ЦК калектывізавана 143.000 *га* і арганізавана буйных калгасаў на плошчы ад 500 да 1.000 і больш *га*—77 калгасаў, з якіх налічваецца 22 калгасы з плошчай у 1.000 і звыш *га*.

Сярэдняя плошча калгасу таксама ўзрасла. Так, калі ў мінулым годзе сярэдні разьмер калгасу быў у 65 *га*, дык у гэтым годзе ён

павялічыўся да 218 *га*. Апрача гэтага, калгасны рух у сапраўднасьці набывае масавы характар. Ёсьць шэраг сельскіх саветаў, як, напрыклад, Ручаёўскі, Пуцімельскі, Іванаўскі і інш., якія ахоплены каляктывізацыяй ад 35 да 75% зямельнае плошчы і насельніцтва. Таксама ёсьць і цэлыя раёны, як Лоеўскі, Клімавіцкі і г. д., дзе каляктывізацыя ахоплівае ад 12 да 20 проц.

Арганізаваныя раней калгасы эканамічна ўзмацніліся, сталі прыкладнымі для вакольнага сялянства. У цэлым шэрагу старых калгасаў у іх склад уліліся тысячы сялянскіх двароў (2.500), таксама арганізавалася 35 калгасаў з 1.241 хутарскіх гаспадарак і г. д.



Сакратар ЦК КП(б)Б т. Гамарнік,

Усе гэтыя посьпехі калгаснага руху цалкам і поўнасьцю абвяргаюць тыя перасьцярогі і нават думкі аб тым, што ў Беларусі няма ўмоў і пэрспэктыў для каляктывізацыі.

Гэты вялізарны рух таксама служыць лепшым адказам правым ухілістым, якія імкнуліся затрымаць разьвіцьцё саўгасаў і калгасаў, якія ня бачучы якасных паказчыкаў росту сельскае гаспадаркі, вялі разважаньне аб дэградацыі сельскае гаспадаркі і г. д.

Пленум ЦК з усёй рашучасьцю асудзіў палітыку Наркамзему, які скрыўляў партыйную лінію і які на працягу шэрагу гадоў накіроўваў сваю працу не на садзейнічаньне каляктывізацыі, а на хутарызацыю вёскі, чым, па сутнасьці, на справе праводзіў правую апартуністычную лінію.

Разам з гэтым Пленум ЦК адзначыў і завастрыў увагу грамадзкасьці на цэлым шэрагу недахопаў у самым калгасным будаўніцтве, як, напрыклад:

„1) Буйнейшы недахоп калгаснага будаўніцтва, слабая абагуленасьць сродкаў вытворчасьці, слабы рост непадзельных капіталаў, што пагражае перарастаньню паасобных гаспадарак у ілжэкалгасы, прыводзіць да замкнутасьці ў іх, нежаданьня прымаць новых членаў, узбуйняцца і г. д. Большасьць калгасаў зьяўляецца ўсё яшчэ дробнымі.

2) Нізкая вытворчасьць і якасьць працы ў саўгасах і калгасах. Нізкі прадукцыйны і таварны ўзровень з прычыны ўсё яшчэ слабай інтэнсіфікацыі, нізкай ураджайнасьці і недастатковай удойлівасьці малочнага стада.

3) Сацыялістычнае спаборніцтва, як мэтод уцягненьня шырокіх мас у актыўную працу па дасягненьні лепшых прыкладаў у саўгасным і калгасным будаўніцтве—разгорнута зусім нездавальняюча.

4) Пасыўныя, а мясцамі яўна варожыя адносіны да калгаснага руху сярод некаторай часткі вясковых партыйных арганізацый і асобных груп працаўнікоў акруговых і цэнтральных устаноў, якія знаходзяцца пад уплывам права-ўхілісцкай апартуністычнай ідэалёгіі бухарынцаў“.

На падставе ўсіх дасягненьняў і недахопаў Пленум ЦК даў цэлы шэраг практычных прапаноў усім установам і арганізацыям, працую-

чым у вёсцы, у галіне таго, што трэба зараз рабіць для таго, каб узмацніць тэмп каляктывізацыі.

Пленум ухваліў дырэктыву Бюро ЦК аб пераглядзе пяцігадовога пляну калгаснага будаўніцтва ў бок рашучага павялічэньня з такім разьлікам, каб абагулены сэктар сумесна з саўгасамі да канца 1930 г. займаў 13 проц. усяе засеўнае плошчы.

Вызначаны Пленумам ЦК тэмп каляктывізацыі патрабуе ўвагі з боку ўсіх арганізацый і ўстаноў з тым, каб яго сваячасова і цалкам выканаць. Для ажыцьцяўленьня гэтых дырэктыў трэба ўжо зараз рыхтавацца: усе працуючыя на вёсцы ўстановы і арганізацыі павінны ў сваіх плянах адвесьці значнае месца справе каляктывізацыі.

Пастановы Пленуму ЦК павінны стаць вядомы шырокім колам калгасьнікаў, бядняцка-серадняцкім масам вёскі і працоўных гораду.

У кожным калгасе, у кожнай вёсцы і пасёлку трэба прапрацоўваць гэтыя пастановы з тым, каб потым праводзіць іх у жыцьцё.

Неабходна ўсе сілы і энэргію накіраваць на ўсямернае ўзмацненьне сацыялістычнай перабудовы вёскі, на выкарчаваньне карэньняў капіталізму і на рашучае змаганьне з правым апартуністычным ухілам.

---

# Калгасы і „Дзень ураджаю“.

14 кастрычніка ў гэтым годзе, як і ў мінулыя гады, будзе праводзіцца дзень ураджаю. Гэтаму дню зараз трэба прыдаць другі зьмест і напрамак, зрабіўшы яго „Днём ўраджаю і Каляктывізацыі“, ператварыўшы яго ў вялікае сьвята шырокіх працоўных калгасных і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, а таксама і працоўных гораду. Гэты дзень павінен стаць днём шырокай праверкі праробленай працы як калгасамі, саўгасамі, так і індывідуальнымі бядняцка-серадняцкімі гаспадаркамі ў справе ўздыму ўраджайнасьці, палепшаньні жывёлагадоўлі і г. д., а таксама *днём яшчэ большай мабілізацыі ініцыятывы і самадзейнасьці працоўных мас за сацыялістычную рэканструкцыю* (*перабудову*) *сельскае гаспадаркі і наступленьню на кулака.*

Пастаўленыя Камуністычнай партыяй задачы аб рэканструкцыі сельскае гаспадаркі на сацыялістычных пачатках, праз каляктывізацыю, добра ўразумелі бядняцка-серадняцкія пласты сялянства. Гэта пацьвярджае той шырока разгорнуты калгасны рух, які зараз адбываецца як па ўсяму Савецкаму Саюзу, так і на Беларусі. Калі да пастаноў XV Зьезду УсеКП(б) налічвалася калгасаў у БССР—440, дык зараз іх ёсьць каля 1.600—павялічэньне амаль што ў 4 разы (на 286 проц.).

Калі раней калгасы арганізоўваліся ў большай частцы дробныя і на землях дзяржфондаў, дык зараз яны арганізуюцца на землях працоўнага карыстаньня і на больш буйных плошчах. Усё гэтае патрабуе каб калгасы *ў дзень ураджаю сталі ў першых шэрагах арганізатараў па ператварэньню папоўскага сьвята „пакравы“, дня п'янкі і брыдоты, у дзень свайго—сапраўды працоўнага сьвята—сьвята каляктывізацыі.*

Калгасьнікі! У гэты дзень вы павінны самі падвясьці вынікі сваіх дасягненьняў у справе падняцьця ўраджайнасьці і наогул вашага гаспадараньня, а таксама культурна-бытавога ўкладу. Усе свае дасягненьні ў гэтым напрамку прадэманструйце і пакажэце шырокім бядняцка-серадняцкім масам вёскі, што для ўздыму культурнага жыцьця

сялянства і ўздыму сельскае гаспадаркі ёсьць толькі адзіны шлях—*шлях каляктывізацыі.* Таму на арганізуемых раённых выстаўках вы павінны заняць адпаведнае месца з вашымі экспанатамі. Апрача таго, вы павінны стаць у гэты дзень арганізатарамі сходаў сялян, канфэрэнцый і нарад, на якія пасылайце сваіх дэлегатаў. На гэтых сходах і нарадах рабеце даклады, справаздачы і расказвайце аб вашых дасягненьнях сялянству, разьбівайце ўсю кулацкую хлусьню, якая зараз вядзецца кулакамі супроць каляктывізацыі. Памятуйце аб пастаўленых Камуністычнай партыяй і Савецкай уладай вялізарных задачах *аб індустрыялізацыі краіны, падвышэньні ўраджайнасьці*, аб лепшым культурным вядзеньні сельскае гаспадаркі, праз *шырокае разгортваньне каляктывізацыі* і г. д. Дзеля выкананьня гэтых задач трымайце шчыльную сувязь з навуковымі ўстановамі і аграномамі, набывайце агранамічныя веды, ужывайце лепшыя мэтады вядзеньня гаспадаркі, узбуйняйце свае гаспадаркі праз далучэньне да сябе вакольных сялянскіх гаспадарак, цьвёрда памятуйце, што *перавага—у рэканструкцыі сельскае гаспадаркі і прымяненьні тэхнікі—за буйнай гаспадаркай.* У „Дзень ураджаю і Каляктывізацыі“ арганізавана здавайце дзяржаве ўсе вашы таварныя лішкі збожжа, сыравіны і інш. прадукты праз каапэрацыю. *Арганізуйце чырвоныя абозы і ўцягвайце ў іх сялянства.* Ганеце ад сябе ўсіх спэкулянтаў, марадзёраў і кулакоў, ворагаў каляктывізацыі і Савецкай улады, не давайце ім нажывацца на вашай працы.



Трактарная калёна Сьмілавіцкага раёну ў „Дзень каляктывізацыі“.

Дапамагайце беднаце вашым інвэнтаром па ўборцы ўраджаю і засеву палёў. *Арганізуйце беднату ў калгасы і вырывайце яе з кабалы кулака.* Усю гэту працу праводзьце пад пунктам погляду лепшага выкананьня памянёных задач—*разгарнеце шырака сацыялістычнае спаборніцтва* паміж сабою, саўгасамі і пасёлкамі. Праверце, як выкананы і выконваюцца ўжо заключаныя дагаворы па спаборніцтву.

Арганізуйце ў сябе ўрачыстыя сходы і вечары, прысьвечаныя „Дню ўраджаю і Каляктывізацыі“, прыцягнеце да ўдзелу ў іх акаляючае сялянства. Сумесна з ім падвядзеце вынікі праробленае працы і адзначце далейшыя мерапрыемствы па ажыцьцяўленьню задач, пастаўленых Камуністычнай партыяй і Савецкай ўладай.

Усе сілы і сродкі на дапамогу дзяржаве будаваць сацыялізм.

*Ніводнага калгасу і калгасьніка не павінна быць без аблігацыі 3-й пазыкі індустрыялізацыі.*

**Сьмірноў.**




**Дзень ураджаю і Калектывізацыі—Дзень масавага шэфства фабрык і заводаў над калгасамі.**

# Да пытаньня арганізацыі буйных балотных гаспадарак на Беларусі.

На сеньняшні дзень ужо даведзена і не выклікае спрэчак, што для Беларусі пераважнае значэньне (у сэнсе мэтазгоднасьці і рэнтабельнасьці) мае мэтад інтэнсыўнага скарыстаньня балот, перад усімі астатнімі мэтадамі палепшаньня балот, якія вядомы ў практыцы мэліарацыі.

Аб гэтым з аднаго боку ясна і катэгарычна сьведчаць работы старэйшых балотных дасьледчых установаў СССР, як Цэнтральная Менская Балотная Дасьледчая Станцыя, Ноўгародзкая Балотная Станцыя, гэтак і працы Нямецкіх Балотных Станцый, з другога боку, вынікі работ мэліарацыйных т-ваў, якія досыць шырока і шпарка вядуць наступленьне на балоты, зьнішчаючы балотную расьліннасьць і засяваючы апрацаваную глебу культурнымі травамі, прапашнымі, тэхнічнічнымі і зернавымі культурамі. Трэба адзначыць, што мэтады працы на балотах нізіннага і пераходнага тыпаў з боку тэхнікі і экономікі ў асноўным высьветлены і настолькі, што перакладаючы ўсе гэтыя прыёмы, бяз усякага на гэты конт раёнаваньня, ёсьць магчымасьць атрымаць высокія ўраджаі.

Гэта, бязумоўна, ня кажа аб тым, што зараз ня трэба клапаціцца аб падшуканьні больш дасканалых мэтадаў працы. Гэтым балотнадасьледчыя ўстановы павінны займацца, бо мэтады апрацоўкі зьяўляюцца адным з галоўнейшых фактараў у падвышэньні ўраджайнасьці палёў, сенажацяй і выганаў, атрыманьня максымальнай валавой, найбольш рэнтабельнай прадукцыі.

Другім фактарам, у гэтым пытаньні, зьяўляецца фізыка-географічны стан Беларусі, ці інакш кажучы натуральна-гістарычныя ўмовы яе. Апошнія далі падставу стварэньню 2.198.000 гектараў балотаў с-г. прызначэньня, заснаваньню Балотнай Дасьледчай установы як Цэнтр. Менскай Балотнай Дасьледчай Станцыі, шырокай сеткі мэліорацыйных таварыстваў і г. д. Але-ж надышла пара, пацягнулася лапата, а за ёю плуг і серп, якія і-за дня ў дзень уступаюць месца трактару з адпаведнымі прычэпнымі прыладамі па апрацоўцы і глебы і збору ўраджаю. Для нас бясспрэчна, што трактар на балоце зьяўляецца значна большым фактарам на шляху калектывізацыі сельскай гаспадаркі, чым трактар у гаспадарках мінэр. угодзьдзяў. Калі трактар, наогул у гаспа-

дарцы адыгрывае ролю эканамічна-сацыяльнага фактару, дык на балоце апрача гэтага, трактар аслабаняе селяніна ад непасільна цяжкай працы па першай апрацоўцы балота. Мэліарацыйныя т-вы на гэты факт вельмі хутка рэагіруюць, аб чым сьведчыць з кожным годам узрастаючы попыт на трактары для балот.

Ня трэба адначасова забываць, што культура балот зьяўляецца для Беларусі адным з вялізарных рэзэрвных фондаў на шляху да зьнішчэньня зямельнай перанаселенасьці. Тым ня менш трэба памятаць, што натуральна-спажывецкі характар нашай сельскай гаспадаркі ў значна большай сваёй частцы тлумачыцца нізкай прадукцыйнасьцю нашых с-г. ужыткаў, з-за вельмі нізкай якасьці іх апрацоўкі і нагляду за імі, слабым забясьпечаньнем арганічнымі і мінэральнымі матэрыям



Новы будынак на Закрашанскай торфараспрацоўцы, Гомельской акр.

і толькі ў меншай сваёй частцы дапамагае мізэрная забясьпечанасьць с-г. колькасным лікам плошчы гэтых ужыткаў. Пагэтаму, балоты нізіннага і пераходнага тыпу, трэба разглядаць з аднаго боку, як плошчу с-г. прызначэньня пад с.-г. культуры, падводзячую асноўную кармовую базу для жывёлаводзтва, значна лепш рэнтыруюшчую працу селяніна ў параўнаньні з найлепшымі мінэральнымі глебамі; з другога, як рэзэрв органа-мінэральных і арганічных злучэньняў, якія ў першую чаргу патрэбна скарыстаць як матэрыю-ўгнаеньне для палепшаньня якасьці мінэральных глебаў, прапусьціўшы торф, папярэдня, праз хлеў, кампосныя кучы, або добра праветрыўшы яго проста ўносіць у глебу. Стала высьветленыя пытаньні тэхнікі і эканомікі інтэнсыўнай культуры балот даюць магчымасьць шырока разгортваць працу па самаму інтэнсыўнаму абхвату балот Беларусі ня толькі праз мэліарац. т-вы, якія па сутнасьці зьяўляюцца першым этапам вытворчай с-г. каапэрацыі на балотах і якія пасьля арганізацыйна-каапэрацыйна-тэхнічнага афармленьня будуць перарастаць, перабудоўвацца ў больш складаныя формы калектыўнага выкарыстаньня с.-г. уласьцівасьцяй і наогул энэргэтычных рэсурсаў торфу, як закончаная сыстэма с.-г. каапэ-

рацыі, але і праз шырокае разгортваньне мэліарацыйных работ шляхам арганізацыі калфондаў. Першым калёнізац. фонд. зьяўляецца калфонд Мар'іна па р. Арэсе, Бабруйскае акругі.

Калёнізацыйны фонд па р. Арэсе пад назвай Мар'іна ці Арэскага, знаходзіцца ў Бабруйскай акрузе, Любальскага раёну, у 10 клм. ад ст. Паешаны, 45 клм. ад ст. Урэчча і 65 клм. ад гор. Слуцка, з агульнай арганізацыйна ахопленай плошчай 13.813,02 гект., з якіх 4.698,25 гект. зямель працоўнага карыстаньня в. Кузьмічы.

У арганізацыйных адносінах калфонд прадстаўляе тры формы і сутнасьці с.-г. вытворчасьці:

1) Арганізуецца савецкая гаспадарка „Імя 10-годзьдзя Сав. Беларусі" з агульнай плошчай зямель у 4.218,40 гект., з якіх 3.501,03 гект. балота.



Возера Лукомль, дзе адчынены рыбаводны завод.

2) Арганізуецца 10 калгасаў на агульнай плошчы ў 4.896,37 гект. з якіх 3.757,17 гект. балот.

3) Рэарганізуецца 301 сялянская гаспадарка, з прылягаючых да калфонду вёсак.

Рэарганізуючым пачаткам гаспадарак прылягаючых вёсак зьяўляецца ў асноўным ня столькі плошча балот з іх працоўным карыстаньнем, якая ставіцца на адзіную вышыню інтэнсіўнасьці с.-г. скарыстаньня з калфондам, і разглядаецца, амаль, як адзіны арганізм усёй пабудовы галін гаспадарак калфонду, колькі самае наліčча саўгасаў і калгасаў, з досыць высокім і поўным забясьпечаньнем мэханічнымі рухавікамі сельскіх гаспадарак і прадпрыемстваў па перапрацоўцы сыравіны.

Напрамак гаспадаркам наданы інтэнсыўна-жывёлаводны з разьвіцьцём сьвінаводзтва, тэхнічных культур, з максымальнай мэханізацыяй працэсаў с.-г. вытворчасьці, арганізацыяй тэхнічных прадпрыемстваў па перапрацоўцы прадуктаў паляводзтва, жывёлаводзтва, як-то: млын,

сырамасларобны завод, крухмальны завод, завод па перапрацоўцы тэхнічных культур (канаплі), якія будуць працаваць ня толькі на сыравіне саўгасаў—1.104.234 руб., калгасаў у 1.172.942 р., а і на сыравіне (лішкі) вакольнага насельніцтва. Такая ўстаноўка мелася ня толькі ў часьці абслугоўваньня тэхнічнымі прадпрыемствамі, але і другімі відамі, як-то: мэханічнай цягавай сілай, роўнай у сучасны момант 17 трактарам, 1 глеба-фрэзе (аформленай у адну трактарную калёну), школай, клюбам і чытальняй, лячэбным пунктам, каапэрацыйнай лаўкай, баняй з прачкарняй, электра-энэргіяй і г. д. Пачаткам работ па гаспадарчаму скарыстаньню калфонду трэба лічыць 1928 год, г. зн. год, калі пачаліся першыя работы па інтэнсыўнай асушцы балот і эксплёатацыі асушаных зямель. У мінулым 1928 г. выканана гідратэхнічных работ на 180.389 р. 69 к., з якіх 3.615 р. 99 кап. прыпадае на 475 гект. асушанага балота і 119.690 р. 58 к. на магістральныя канавы і калектары—38,46 клм., з выемкай 237.399 куб. мт. Праведзена карчоўка



Рыбаводнае аддзяленьне Лукомльскай рыбаводнай станцыі.

на 350 гект., 98 гект. узорана, з якіх 29 гект. знаходзілася пад с.-г культурамі (віка-авёс, азімае жыта, азімая пшаніца, капуста і інш.). Ня гледзячы на недастатковую раскладзенасьць торфу, нездавальняючую распрацоўку пласту і позьнія пасевы,—усё-ж ткі ўраджай, напрыклад, віка-аўсянага сена ад віка-аўсянай зьмены атрыманы ў 3.125 клг.

Плянам працы на 1928—29 г. прадугледжана выканаць наступныя работы:

1) інтэнсыўна асушыць . . . . . . 1500 гект.
2) раскарчаваць . . . . . . . . . 750 „
3) узараць . . . . . . . . . . . . . 2224 „
4) будзе знах. пад папарам . . . 350 „

Апрача плошчы пасеваў гаспадарчага значэньня вызначана плошча пасеваў дэманстрацыйна-паказальнага характару; сюды, напрыклад, уваходзяць наступныя культуры: азімае жыта, азімая пшаніца, авёс, ячмень, віка-авёс, яравая пшаніца, каноплі, лён, травы, бульба, капуста, кармовыя буракі, морква, турнэпс, грэчка, гародныя культуры і нават сахарныя буракі. Гэта дэманстрацыйна-паказальны вучастак з нашага пункту гледжаньня мае вялікую каштоўнасьць—ён дае магчымасьць

каланістаму сьмела і ўпэўнена сяліцца і сьмела брацца за гэту работу, з аднаго боку, з другога, зьяўляецца вялікім агітацыйна-прапагандысцкім пунктам для акаляючага насельніцтва, які патрэбна скарыстаць для ўсяго працоўнага насельніцтва і аб'яднаных арганізацый Беларусі. Поўнае асваеньне адведзеных зямель пад саўгас і калгасы мяркуецца закончыць у 1933 годзе. Да гэтага часу мяркуецца закончыць пабудову ўсіх будынкаў, неабходных як для гаспадарчых, так і для культурных мэт.

Рэнтабельнасьць арганізацыі саўгасаў і калгасаў бязумоўна, аб гэтым яскрава гавораць ніжэй паданыя лічбы:

1) валавы даход па саўгасу вызначаецца 1.839.570 р.
2) усе выдаткі . . . . . . . . . . . . . 1.526.635 р.
3) чысты прыбытак . . . . . . . . . . 312.935 р.

Па галінам гаспадаркі чысты прыбытак разьмяркоўваецца наступным чынам:

1) ад паляводзтва . . . . . . 222.817 р.
2) „ буйнае рагатае жывёлы 50.258 р.
3) „ сьвінаводзтва . . . . . 38.806 р.

Што складае:

а) 74 р. 20 к. чыстага прыбытку на гект. усёй плошчы саўгасу,
б) 84 р. 60 к. „ „ „ пахаці,
в) 13,7 проц. на асноўны капітал,
г) 58,3 „ „ зваротны „
д) 59,5 „ „ мэліарац. „

Для таго, каб усе 10 калгасаў маглі рацыянальна распачаць працу, трэба 3.112.416 р. сродкаў з якіх:

а) беззваротных . . . . . . 257.336 р.
б) крэдыту . . . . . . . . . 1.402.981 р.
в) асабовых сродкаў і праца сябраў каляктываў . . . 1.452.099 р.

Сярэдняя рэнта ад вядзеньня гаспадаркі калгасаў вызначаецца ў 20 проц.

З прыведзенага раней кароткага аналізу арганізацыйнай сутнасьці пабудовы буйных гаспадарак на балотах відаць, што арганізацыя іх, іх эксплёатацыйны пэрыяд толькі пачынаецца. З гэтым фактам трэба лічыцца,—патрэбна зьвярнуць асаблівую ўвагу як з боку укамплектаваньня каленістымі і наогул рабсілай, так і з боку сваячасовага забясьпечаньня ўсімі неабходнымі сродкамі вытворчасьці.

**І. І. Бараноўскі.**

---

# Ці патрэбны адчыненыя калгасы.

*(У парадку абгаварэньня.)*

Калгаснае будаўніцтва за апошні час значна разгарнулася. Арганізацыя калгасаў праходзіць шпаркім тэмпам. На каляктыўныя формы землякарыстаньня пераходзяць цэлыя вёскі, а месцамі і сельсаветы.

Адначасова з гэтым ростам калгасаў мы наглядаем, што ў мясцох, дзе насельніцтва за апошнія гады земляўпарадкавана на пасялковую

форму землякарыстаньня арганізацыя калгасаў праходзіць надта марудна. Пры гэтым маем шэраг выпадкаў, калі ў невялікім пасёлку, налічваючым 20—25 гаспадарак, частка насельніцтва (10—15 гаспадарак) жадае арганізавацца ў калгас, а іх аб'яднаньне на мясцох затрымліваецца з-за неабходнасьці правядзеньня новага земляўпарадкаваньня.

Усё гэта—наліччa значнай колькасьці дробных пасёлкаў на Беларусі і ўзяты тэмп па каляктывізацыі сельскае гаспадаркі, ствараюць неабходнасьць вышукваньня такіх мэтадаў, якія спрыялі-б пераводу дробных пасёлкаў у каляктыўныя гаспадаркі пры найменшых затратах, бяз новага земляўпарадкаваньня і ломкі старых сяленьняў.

Адным з танейшых мэтадаў, пры якіх магчыма без усялякай ломкі старой сядзібы і бяз новага земляўпарадкаваньня ўцягваць у калгаснае будаўніцтва шырокія колы сялянства пасёлкаў, зьяўляецца арганізацыя адчыненых калгасаў, напрыклад: у земляўпарадкаваным пасёлку налічваецца 30 гаспадарак, з гэтых 30 гаспадарак жадаюць арганізавацца ў калгас 15 гаспадарак, дык апошнім бяз новага земляўпарадкаваньня вызначаецца ў кожным полі севазвароту агульны вучастак зямлі, шляхам памены зямлі ў абавязковым парадку з асобамі, нежадаючымі ўвайсьці ў калгас. Пытаньне адносна памены зямлі калгасьнікаў з асобамі нежадаючымі ўвайсьці ў калгас неабходна, каб НКЗБ вырашыў у напрамку абавязковай замены. Пры гэтым трэба лічыць абавязковым, каб у адчыненых калгасах зямельная плошча была зьведзена ў адзін агульны вучастак. У далейшым рэшта пасялкоўцаў, пры сваім уступленьні ў калгас, далучаюць сваю зямлю да калгаснага вучастку, покуль увесь пасёлак не аб'яднаецца ў калгас.

У адчыненых калгасах магчымы шэраг непаразуменьняў паміж калгасьнікамі і некалгасьнікамі, калі першыя пажадаюць зьмяніць чаргаваньне культур існаваўшага севазвароту. У гэтым напрамку неабходна таксама, каб НКЗБ вырашыў, што калі ў калгас уваходзіць $^{1}/_{3}$ частка насельніцтва пасёлку, дык у залежнасьці ад таго с.-г. напрамку, які будзе нададзены калгасу, апошні можа зьмяніць севазварот, з тым, каб і ня ўступіўшыя ў калгас прытрымліваліся новага севазвароту. Пры гэтым вырашэньні пытаньня магчыма будзе хутчэй пасунуць каляктывізацыю дробных пасёлкаў бяз страт.

М.

---

# Арганізацыйна-гаспадарчы стан калгасаў БССР.

Каляктыўнае земляробства ў БССР вышла ўжо з таго стану, у якім яно знаходзілася ў першыя гады новае эканамічнае палітыкі. Каляктывы ўжо пасьпелі паказаць перавагу буйных гаспадарак перад дробнымі сялянскімі гаспадаркамі як у адносінах рацыянальнага вядзеньня гаспадаркі, так і прыбытковасьці яе.

Значную ролю адыграла ва ўзмацненьні калгасаў, арганізаваных у буйных маёнтках, перадача ім у мінулым годзе зямлі з садамі ў працоўнае карыстаньне, а таксама ў беззваротнае карыстаньне будынкаў і інвэнтару, прадастаўленьне адпаведных крэдытаў і ўзмацненьне агрыкультурнага абслугоўваньня.

Да перадачы калгасам у працоўнае карыстаньне дзяржаўнае зямельнае маемасьці, шмат якія з іх ня імкнуліся ўтрымоўваць у належным стане будынкі, інвэнтар,—у выніку чаго яны з кожным годам усё больш і больш нішчыліся.



Выкарчоўка пнёў. Машына ў яўрэйскім калгасе.

Хаця ў сучасны момант калгасы яшчэ ў поўнай меры не забясьпечаны асноўнымі капіталамі, але ўсё-ж ткі колькасьць сродкаў за два апошнія гады значна павялічылася.

Дынаміку забясьпечанасьці калгасаў асноўнымі капіталамі характарызуе наступная табліца, узятая з гадавой справаздачы Белкалгассаюзу:

| Віды капіталаў | 1926-1927 г. | | 1927-1928 г. | | % забясьп. ад прынятай нормы | % прыросту за год на разьліку на 1 гект. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Агульны кошт у т. руб. | Сярэдні на 1 гект. пашы ў руб. | Агульны кошт у т. руб. | Сярэдні на 1 гект. пашы ў руб. | | |
| Будынкі | 2509,3 | 75,4 | 6927,9 | 131,68 | 65,8 | 176,1 |
| Няжывы інвэнтар | 495,9 | 14,9 | 1576,3 | 29,96 | 60,0 | 217,9 |
| Жывы „ | 1121,5 | 33,7 | 3281,9 | 62,38 | 62,4 | 192,6 |
| Усяго | 4126,7 | 124,0 | 11786,1 | 224,02 | 64,0 | 185,6 |

Адсюль відаць, што некаторае адставаньне росту капіталу ў жывым інвэнтару тлумачыцца недахопам адпушчаемых у мінулым годзе на закупку жывёлы крэдытаў, а таксама абмежаванай колькасьцю племяной і асабліва прадукцыйнай жывёлы на рынку.

Вялікі недахоп у калгасах гаспадарчых будынкаў і будынкаў для жывёлы затрымоўвае нармальнае ўкамплектаваньне насельніцтва старых калгасаў, а таксама часта затрымлівае абагульваньне калгасамі прадукцыйнае жывёлы.

Паасобнымі відамі абагуленае жывёлы калгасы забясьпечаны па разьліку на 100 гект. пахаці ў наступным разьмеры, згодна гадавой справаздачы Белкалгассаюзу:

| Назва жывёлы | 1925-26 | 1926-27 | 1927-28 |
|---|---|---|---|
| Рабочыя коні . . . | 8,8 | 9,8 | 9,0 |
| Каровы . . . . | 10,6 | 22,1 | 28,04 |
| Сьвіньні . . . . | 3,2 | 4,4 | 3,7 |
| Авечкі . . . . | 13,3 | 16,1 | 11,6 |

Колькасьць абагуленых кароў за апошнія два гады значна ўзрасла і ўжо блізка набліжаецца да той колькасьці кароў, якую наогул утрымоўваюць сяляне ў сваіх гаспадарках (у калгасах 28,04 абагуленых кароў на 100 гект. пахаці, а ў сялянскіх гаспадарках, па даных ЦСК БССР, 29,2 усіх кароў).

Некаторае зьмяншэньне абагуленае дробнае жывёлы ў калгасах у 1927-28 г. тлумачыцца тым, што значная частка новаарганізаваных калгасаў яшчэ ня прыступала да абагуленьня дробнае жывёлы, а трымае яе ў паасобным уласным карыстаньні.

Ня гледзячы на недастатковую ўкамплектаванасьць калгасаў асноўнымі капіталамі, ступень абагульваньня іх з кожным годам усё ўзрастае і па няжывому інвэнтару, напрыклад, на 1/X-28 г. ужо дасягнула, згодна даных ЦСК БССР, 95%, будынкаў 88%, а па жывому інвэнтару 73,5%, замест таго, як было ў мінулым годзе: па няжывому інвэнтару 87,8, будынкам 83,3 і жывому інвэнтару 72,9%.

Разам з паказанымі дасягненьнямі калгасаў у галіне забясьпечаньня асноўнымі капіталамі, калгасы хутчэй, чым індывідуальныя сялянскія гаспадаркі ўводзяць лепшыя, культурныя спосабы гаспадараньня (палепшаныя папары, радавы пасеў, ачыстка насеньня і г. д.).

Ступень скарыстаньня пахаці ў калгасах, хаця яшчэ і недастатковая, але ўсё такі ўжо больш інтэнсыўная, чым у сялянскіх гаспадарках, аб чым сьведчыць наступная табліца гадавой справаздачы Белкалгассаюзу:

| Віды скарыстаньня пахаці | Калгасы | Сялянскія гаспадаркі |
|---|---|---|
| Пад пасевам . . . | 73,3 | 71,8 |
| „ лубінам . . . | 2,2 | 1,2 |
| „ незанятым папарам . | 19.9 | 20.8 |
| „ недасевам . . | 1,8 | 1,5 |
| „ залежамі . . . | 3,7 | 4,7 |
| Усяго . . . | 100,0 | 100,0 |

Суадносіны паасобных культур таксама паказваюць значнае павялічэньне інтэнсыўнасьці паляводзтва калгасаў параўнальна з сялянскімі гаспадаркамі. Толькі тэхнічныя культуры, будучы ў большасьці

раёнаў БССР да апошняга часу, галоўным чынам, спажывецкаю культураю, у калгасах шырокага разьвіцьця пакуль што ня мелі (2,74% ад усяго пасеву). Затое плошча пад пасевам траў значна пашырана (22,14%), што ставарае даволі спрыяючыя ўмовы для разьвіцьця ў калгасах жывёлагадоўлі.

Суадносіны розных культур у 1927—28 годзе ў калгасах і параўнаньне іх з сялянскімі гаспадаркамі паказвае наступная табліца:

| Культуры | Калгасы | Сялянскія гаспадаркі |
|---|---|---|
| 1. Зернавыя культуры . . | 56,56 | 75,9 |
| 2. Бульба і караньплоды. . | 13,85 | 13,3 |
| 3. Тэхнічныя культуры (лён, каноплі) . . . . | 2,74 | 5.0 |
| 4. Сеяныя травы (канюшына і віка). . . . . | 22,14 | 4,6 |
| 5. Іншыя. . . . . | 4,71 | 1,2 |
| Усяго . . | 100,0 | 100,0 |

Як паказваюць справаздачныя даныя, ураджайнасьць у калгасах яшчэ не здавальняючая, але яна ўжо па ўсіх культурах значна перавышае ўраджайнасьць сялянскіх гаспадарак, у той час, калі ў мінулыя гады яна была ніжэй сялянскай:

| Культуры | 1924 г. | | 1927-28 г. | |
|---|---|---|---|---|
| | Калгасы | Сялянскія гаспадаркі | Калгасы | Сялянскія гаспадаркі |
| Жыта . . . | 6,83 | 7,0 | 7,48 | 6,69 |
| Авёс . . . | 7,13 | 8,30 | 8,78 | 7,54 |
| Ячмень . . . | 6,90 | 7,40 | 8,22 | 7,04 |
| Бульба . . . | 88,0 | 82,5 | 99,12 | 88,90 |

Дзякуючы павышанай ураджайнасьці калгасаў, параўнальна з сялянскімі гаспадаркамі, а таксама большай прадукцыйнасьці жывёлы, валавая прадукцыя іх, ня гледзячы на недастатковую ўкамплектаванасьць жывёлы, па маючымся ў Белкалгассаюзе даным за 1927 год, значна вышэй, чымся ў сярэдняй сялянскай гаспадарцы і набліжаецца па прыбытковасьці да заможных гаспадарак:

| | На 1 гект. пахаці | На аднаго едака |
|---|---|---|
| Калгасы . . . . . | 243 | 238 |
| Сярэднія сялянскія гаспадаркі . | 182 | 143 |
| Калгасаў у %% да сялянскіх гаспадарак. . . . | 135,5 | 166,4 |

Кошт таварнай прадукцыі калгасаў у 1927—28 г. складаў 26,8% ад усёй валавой прадукцыі іх. Прычым у мінулым годзе таварная прадукцыя калгасаў ужо ў большай меры ахаплялася дзяржаўнымі і каапэрацыйнымі органамі, дасягнуўшы 78,7% усяе таварнай прадукцыі, замест 40,9% у 1926—27 годзе. Аднак, ахоп гэты яшчэ далёка недастатковы, бо і ў мінулым годзе папала ў рукі прыватніка даволі значная частка прадукцыі калгасаў (11,5%), акрамя той прадукцыі, якая прададзена мясцовым сялянам (9,8%).

Снабжэньне калгасаў неабходнымі ім сродкамі вытворчасьці, прадуктамі і матар'яламі яшчэ ў малай меры ахоплена каапэрацыяй, чымся збыт іх прадукцыі. Калі там удзельная вага прыватнага рынку раўняецца, прыкладна 11,5%, дык у снабжэньні калгасаў неарганізаваны рынак займае 45,9%. Асабліва кепска арганізавана каапэрацыяй снабжэньне калгасаў жывёлаю. Жывёла была закуплена калгасамі ў мінулым годзе праз каапэрацыю толькі ў разьмеры 11,3% усяе наогул купленае імі жывёлы, прыватнік-жа тут займаў каля 83%.

У далейшай сваёй працы як Белкалгассаюзу, так і наогул усёй каапэрацыі і абслугоўваючым калгасы органам неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу на арганізацыю збыту прадукцыі калгасаў і снабжэньне іх патрэбнымі сродкамі вытворчасьці, даўшы магчымасьць ім хутчэй выйсьці з-пад уплыву прыватніка і наогул неарганізаванага стыхійнага, так званага „вольнага“ рынку.

Агроном С. Туркін.

---

**Калгасьніца! Растлумач і пакажы сялянцы ўсе перавагі калгаснага жыцьця.**

---

# Добрая вытворчасьць працы—залог моцы калгасаў.

### Гаспадарку трэба весьці па пляну.

Нармальнае і пасьпяховае разьвіцьцё ўсялякага сельска-гаспадарчага прадпрыемства залежыць ад таго, як рацыянальна скарыстоўваюцца асноўныя фактары (паказчыкі) сельска-гаспадарчай вытворчасьці—зямля, праца і капітал. Правільнае скарыстаньне гэтых фактараў магчыма пры ўмовах плянавага вядзеньня гаспадаркі, г. зн., што ўсе галіны гаспадаркі, як паляводзтва, жывёлаводзтва і інш. разьвіваюцца на падставе распрацаваных плянаў, па якім робяцца дэталёвыя разьлікі мэтазгоднасьці разьвіцьця тэй ці іншай галіны. Толькі такім шляхам магчыма правільна арганізаваць гаспадарку і дабіцца найбольшага эфэкту (вынікаў), пры найменшых затратах.

Калі ў гаспадарцы няма пляну, які прадугледзіў-бы патрэбную колькасьць працоўных рук па розным галінам у розныя пэрыяды году, то справа правільнай арганізацыі працы яшчэ больш ускладняецца. У гэтых выпадках у розныя пэрыяды году маюць месца крытычныя моманты, калі ў гаспадарцы адчуваецца недахоп працоўных рук у сувязі з тэрміновасьцю выкананьня тэй, ці іншай работы. Вось чаму калгасы, ня гледзячы на тое, што яны павінны выконваць усю працу ў гаспадарцы выключна сіламі сваіх членаў, прымушаны ў такія крытычныя моманты прыцягваць наёмную сілу.

## Чаму нашы калгасныя пляны ня жыцьцёвы.

Як-жа абстаіць справа плянавасьці ў калгасах БССР? А вось як. Хаця амаль ува ўсіх калгасах складзены вытворчыя пляны, але ні адзін калгас гэтымі плянамі не кіруецца ў сваёй штодзеннай працы. Звычайна шмат калгасаў складаюць пляны толькі для таго, каб мець магчымасьць атрымаць крэдыты. У мэтах-жа кіраваньня гаспадаркай гэтыя пляны ў калгасах наогул ня ўжываюцца.

Чым-жа тлумачыцца такое становішча? А вось чым. Вытворчыя пляны складаліся і складаюцца аграномамі, ці інструктарамі літаральна на калёсах. Такая сьпешка не зьяўляецца вынікам нядобраякасных



Узворваньне зямлі трактарам з сямілямешным плугам пад васеньняю сяўбу ў камуне „Пчала“, Бранскага павету.

адносін аграномаў да працы, яле вялікай перагрузкай і малым часам. Пры існуючай сетцы калгасаў, на кожнага агранома-калгасьніка прыходзіцца каля 20—25 калгасаў. Для складаньня плянаў па гэтым калгасам аграномы мелі ня больш 1—1½ м-цаў. Пагэтаму вытворчыя пляны часта складаліся за адну ноч. Вядома, што ў гэтых плянах быў шэраг памылак і недарэчнасьцяй. У сувязі з гэтым актыў калгасу, які павінен праводзіць усе мерапрыемствы, намечаныя па пляну, зусім ня ўдзельнічае ў складаньні плянаў і нават ня ведае, якія мерапрыемствы намечаны па пляну. Складзеныя пляны ў асноўным не адпавядаюць напрамку гаспадаркі. Маецца шэраг выпадкаў, калі для калгасу ў 40 *га* пахаці плянам прадугледжваецца набыцьцё трактара і снопавязалкі і шмат крэдытаў на іншыя мерапрыемствы у той час, калі гаспадарка ня мае ў гэтым ніякай патрэбы.

Неплянавае вядзеньне гаспадаркі калгасу можа прывесьці да яго распаду. Таму калгаснай сыстэме трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на тое, каб складаемыя пляны былі жыцьцёвымі. Дзеля таго, каб складаемыя

пляны былі рэальны і праводзіліся ў жыцьцё, неабходна адмовіцца ад існаваўшага да гэтага часу мэтаду складаньня плянаў. Вытворчыя пляны павінны складацца тымі асобамі, якім прыдзецца іх ажыцьцяўляць, пад кіраўніцтвам аграномаў. Гэта значыць, што загадчыкі паасобных галін гаспадаркі (палявод, жывёлавод, садоўнік, загадчык тэхнічнымі прадпрыемствамі і інш.) сумесна з Саветам калгасу, пад кіраўніцтвам агранома, самі складаюць вытворчы плян. Толькі пры такіх умовах, калі ўдзельнікі ў складаньні плянаў будуць іх ажыцьцяўляць, магчыма быць упэўненым, што плянавасьць у рабоце калгасаў будзе наладжана. Адначасова з гэтым трэба таксама максымальна ўпрасьціць форму складаньня плянаў, каб кожны пісьменны калгасьнік меў магчымасьць разьбірацца ў ім.

### Вытворчасьць працы.

Калі калгасы будуць забясьпечаны жыцьцёвымі плянамі, магчыма будзе вырашыць пытаньне правільнай арганізацыі працы. Бяз правільнай-жа арганізацыі працы немагчыма падвысіць вытворчасьць працы.

Адным з галоўнейшых недахопаў нашых калгасаў зьяўляецца нізкая вытворчасьць працы. У гэтых калгасах няма разьмеркаваньня абавязкаў,



Малацьба ў калгасе.

няма дакладнага раскладу работ. Усе работы выконваюцца ў парадку чарговасьці. Так, напрыклад, у шэрагу калгасаў такія работы, як нагляд за жывёлай і даеньне кароў і інш. выконваюцца па чарзе ўсімі членамі калгасаў без прымацаваньня сталых працаўнікоў. Дзяжурствы ствараюцца на вельмі кароткі тэрмін на 5—10 дзён. Гэта не дае ніякага стымулу (штуршка) калгасьніку падняць вытворчасьць у тэй ці іншай галіне гаспадаркі, а таксама зьнішчае ўсякую магчымасьць ускладаньня адказнасьці за выконваемую працу і вучоту якасьці яе. Ня гледзячы на вельмі важнае значэньне пытаньня арганізацыі працы ў калгасах, усё-ж ва ўмовах БССР гэтае пытаньне амаль што ня вывучана. Па калгасах Беларусі ўжываюцца самыя разнастайныя формы і мэтады арганізацыі працы і яе аплаты.

### Мэтады аплаты працы.

У залежнасьці ад розных арганізацыйных форм каляктыўных гаспадарак (камуны, арцелі, т-вы па супольнай апрацоўцы глебы) існуе цэлы шэраг розных мэтадаў арганізацыі працы і яе аплаты. У некаторых камунах да апошняга часу ўжываюцца старыя, аджыўшыя мэтады аплаты труда—па едакам, незалежна ад колькасьці працоўных рук у сям'і і праробленае працы. Пры гэтым для едакоў розных узростаў устанаўліваюцца паасобныя пайкі. У другіх камунах і арцелях праца аплачваецца па працаздольным членам калгасаў, ня ўлічваючы маючыхся дзяцей і непрацаздольных, якія знаходзяцца на ўтрыманьні гэтых членаў калгасаў. У шэрагу калгасаў ужываецца аплата працы па сем'ям, асабліва там, дзе жанчыны няпоўнасьцю ўцягнуты ў работу. Шмат-жа камун і арцеляў шырока ўжываюць аплату працы па патрачанаму труду (па працоўным дням), прымаючы за адзінку аплаты працоўны дзень. У т-вах па супольнай апрацоўцы глебы вынікі працы ў асноўным разьмяркоўваюцца па дварам, альбо працаздольным членам т-в (па колькасьці працаздольных адзінак тэй ці іншай гаспадаркі сябраў т-ва, ўдзельнічаючых у рабоце гэтага т-ва). Маецца і яшчэ шмат іншых мэтадаў аплаты труда. Амаль што кожны калгас мае сваі асаблівасьці ў гэтым напрамку. Усе пералічаныя мэтады аплаты працы ў калгасах БССР не заўсёды выклікаюць зацікаўленасьць калгасьнікаў у найлепшым выкананьні ўскладзеных на іх абавязкаў і не ствараюць ніякага стымулу да падняцьця вытворчасьці працы. Яны маюць той недахоп, што прадукцыйнасьць работы кожнага сябра ня ўлічваецца, паколькі за адзінку аплаты прымаецца працаздольнасьць і працоўны дзень. Дзякуючы таму, што прадукцыйнасьць працы членаў ня ўлічваецца, калгасьнікі не заўсёды зацікаўлены ў падняцьці вытворчасьці працы, несваячасова зьяўляюцца на работу і часта працуюць па „настрою". Так, напрыклад, здараюцца такія выпадкі, калі 5 калгасьнікаў на 5 параконных плугах аралі 6 *га* 5 дзён замест $2^1/_2$ дзён, альбо на полку 20 *га* аўсу ад сьвірэпкі патрачана 585 жаночых дзён. Можна прывесьці яшчэ шэраг такіх прыкладаў. Чым-жа гэта тлумачыцца? Па-першае, нізкім культурным узроўнем гэтых калгасьнікаў. Дзякуючы гэтаму яны ня ведаюць, што ад лепшай вытворчасьці працы будуць і лепшыя вынікі, падвысіцца прыбытковасьць гаспадаркі і наогул палепшыцца іх жыцьцё ў калгасе. Па-другое, недахопам саміх арганізацыйных мэтадаў аплаты працы, якія зусім ня стымулююць падняцьце яе вытворчасьці. Упаўне зразумела, што калі незалежна ад таго, якую работу калгасьнік выканаў, калі прыступіў да яе выкананьня, са спазьненьнем ці не, і наогул поўнасьцю альбо часткова выканаў працу, гэты калгасьнік усё роўна поўнасьцю атрымае плату за працоўны дзень, а таму ён не зацікаўлены ў шпаркім і добраякасным выкананьні сваёй працы. Паколькі пры аплаце па працадням не вядзецца вучот выконваемай працы, дык няма ніякай падставы ў сэнсе далейшага падвышэньня вытворчасьці гэтай працы. Дзякуючы гэтаму няма ніякай падставы дзеля далейшага палепшаньня самой гаспадаркі.

Жыцьцё паказала, што найлепшым мэтадам да падвышэньня вытворчасьці працы зьяўляецца аплата яе па колькасьці і якасьці, што выклікае неабходнасьць нарміраваньня працы ў калгасах з устаноўленьнем норм выпрацоўкі.

Аграном **М. Цынкоў**.

---

**14 кастрычніка—дзень аб'яднаньня батракоў, беднякоў і сераднякоў ў калякгывы?**

---

# За зьдзельную аплату працы ў калгасах.

### Як падвысіць вытворчасьць працы ў калгасах.

Вопыт калгаснага будаўніцтва на Беларусі паказаў, што ад правільнага вырашэньня пытаньня арганізацыі працы і яе ўзнагароды залежыць альбо далейшае арганізацыйнае і гаспадарчае ўзмацненьне калгасу, альбо яго паслабленьне і нават развал. Вось чаму на ўсіх нарадах і зьездах калгасаў у апошнія гады гэтаму пытаньню ўдзяляецца вялікая ўвага. У мэтах падвышэньня вытворчасьці працы ў калгасах неабходна стварыць такія ўмовы, пры якіх кожны член калгасу меў-бы асабістую зацікаўленасьць рабіць, як можна больш і лепш, а гэта магчыма выканаць шляхам правядзеньня вучоту працы ў залежнасьці ад колькасьці і якасьці яе.



Чырвона-беларускі бык, вага 7.52 цэнт. (47 п.), (саўхоз Вязань).

Згодна пастаноў Усесаюзнага і Ўсебеларускага Зьездаў калгасаў у камунах, арцелях і таварыствах па супольнай апрацоўцы глебы неабходна ўтвараць аплату труда па колькасьці і якасьці патрачанай працы, заахвочваючы пераход да зьдзельнай аплаты працы, улічваючы карыснасьць яе прыстасаваньня ў тэй ці іншай галіне, і ўстанаўліваючы нормы выпрацоўкі паасобных відаў работы. Бязумоўна, у тых выпадках, калі ў *калгасах ужываюцца іншыя мэтады аплаты працы, якія садзейнічаюць падвышэньню яе вытворчасьці, трэба іх захоўваць, бо няма ніякага сэнсу абавязкова пераходзіць на зьдзельшчыну.*

Шляхамі, садзейнічаючымі падвышэньню вытворчасьці працы ў калгасах,—зьяўляецца таксама стварэньне спрыяючых умоў да спэцыялізацыі калгасьнікаў, браніраваньне моладзі да розных спэцыялістых (калгаснае вучнёўства), прэміраваньне за лепшую працу, ужываньне аднолькавай аплаты працы жанчын з мужчынамі, пры аднолькавасьці выконваемай працы і сацыялістычнае спаборніцтва.

### Трэба аплачваць працу па яе колькасьці і якасьці.

Яшчэ першы Ўсесаюзны Зьезд калгасаў прызнаў неабходным увядзеньне ў калгасах аплаты працы па колькасьці і якасьці патрачанай працы. Ні ў якім разе нельга аднолькава аплачваць працу кваліфікаванага спэцыялістага, напрыклад, трактарыстага, альбо аграънома, кіруючага ўсёй гаспадаркай калгасу, з працай звычайнага працаўніка-калгасьніка, выконваючага агульную звычайную працу. Таксама недапусьціма, каб аднолькава аплачвалася добрая і дрэнная праца, альбо працаўнікі з большай і меншай вытворчасьцю працы пры аднолькавай яе якасьці.

А што можа здарыцца, калі ў калгасе будзе ўведзена параўнальна-спажывецкая ядоцкая форма аплаты працы?

Вядома, што ў калгасах незаўсёды бывае такі вельмі добры склад членаў, каб яны былі так высока культурна разьвіты, так глыбока прасякнуты ідэяй каляктывізацыі, што ўсе да аднаго выконвалі-б ускладзеную на іх працу найлепш і з энтузіязмам, пры якім не патрэбна ўжываць асаблівых спосабаў заахвочваньня для падвышэньня вытворчасьці працы.

А калі так, дык некаторыя калгасьнікі будуць працаваць лепш, а іншыя горш, прычым тыя, якія працуюць дрэнна—атрымліваюць аднолькавую плату з лепшым працаўніком, ніколькі ня будуць зацікаўлены ў тым, каб самім падцягнуцца, каб не адставаць, не рабіць горш.

Наадварот, добрасумленныя калгасьнікі, бачачы, што калгас аднолькава аплачвае і добрых і дрэнных працаўнікоў—будуць імкнуцца да таго, каб выйсьці з такога калгасу, альбо пачнуць і самі працаваць больш дрэнна.

А колькі пры гэтым будзе розных сварак, скаргаў, недарэчнасьцяй? Шмат.

Дрэнная арганізацыя працы і яе аплаты могуць давесьці калгас да паслабленьня яго арганізацыйна-гаспадарчай моцы і нават да распаду. У нас на Беларусі быў цэлы шэраг старых камун, якія ў першыя гады свайго існаваньня арганізоўвалі працу на падставе параўнальна-спажывецкай яе аплаты. Але-ж само жыцьцё прымусіла іх перайсьці на іншыя рэйкі арганізацыі працы, з тым, каб замацаваць падвышэньне вытворчасьці працы камунараў; яны былі прымушаны перайсьці на аплату працы з падлікам як колькасьці, так і якасьці.

Гэта садзейнічала матар'яльнай зацікаўленасьці членаў у разьвіцьці каляктыўнай гаспадаркі, якая шпарка пачынала як эканамічна, так і організацыйна ўзмацняцца, расьці.

### Спэцыялізацыя калгасьнікаў.

У залежнасьці ад здольнасьці і іншых асаблівасьцяй таго, ці іншага члена калгаса, ён выконвае адну працу вельмі добра, другую ня так, а трэцюю зусім дрэнна.

Той працаўнік, які працуе ў аднэй галіне сельскае гаспадаркі доўгі час—лепш працуе, чым той, які ніколі не працаваў, альбо працаваў параўнальна мала, таму асабліва важна пры арганізацыі працы ў калгасе ўлічваць усе адзначаныя моманты.

Часта бывае і так, што ў гаспадарцы няма таго ці іншага спэцыялістага, кваліфікаванага працаўніка. Гэта прымушае калгас наймаць працаўніка, ня гледзячы на тое, што асноўным правілам у калгасе павінна быць—выконваньне ўсёй працы сваімі сіламі. Апроч таго, гас-



падарка будзе несьці значныя выдаткі на ўтрыманьне наёмнага спэцыялістага, што менш карысна, чым у тых выпадках, калі быў-бы свой спэцыялісты, які-б знаходзіўся ў складзе членаў калгасу.

Неабходна паставіць задачай прыцягненьне спэцыялістых у члены калгасаў. Адначасова трэба прыняць усе захады да таго, каб з разьвіцьцём і ўзмацненьнем абагуленае гаспадаркі павялічыць спэцыялізацыю працы членаў калгасаў, шляхам прымацаваньня іх да працы да паасобных галін гаспадаркі.

У кожным калгасе ёсьць шэраг работ, якія патрабуюць належнае спэцыялізацыі. Так, напрыклад, нельга добра абслужыць неспэцыялістаму такія галіны гаспадаркі, як садоўніцтва, гародніцтва і інш., альбо працаваць на трактары, розных складаных машынах і г. д. Прымацоўваючы паасобныя групы членаў калгасаў да гэтых работ, пад кіраўніцтвам вопытных спэцыялістых, мы здолеем дабіцца таго, каб гэтыя калгасьнікі спэцыялізаваліся, набылі неабходныя, для добрай працы, навыкі. Пры гэтым трэба, па магчымасьці, не дапушчаць перакіданьня прымацаваных калгасьнікаў з аднэй галіны на другую.

Для кіраваньня работай у паасобных галінах гаспадаркі больш буйных калгасаў неабходна вылучаць спэцыяльных кіраўнікоў гэтымі галінамі.

### Прэміраваньне за лепшую працу.

У мэтах стварэньня большай зацікаўленасьці і лепшым выконваньні працы і для большага падвышэньня вытворчасьці працы сярод членаў калгасаў, некаторымі калгасамі, напрыклад, „Дняпроўская Камуна“ Гомельскай акругі, „Зьвязда“ Менскай акругі, і інш. практыкуецца мэтад прэміраваньня. Гэта звычайна робіцца такім чынам: на працягу года кіраўнікамі калгасу вывучаецца праца паасобных членаў калгасу. На справаздачным сходзе ў канцы году Савет калгасу высоўвае перад сходам пытаньне аб прэміраваньні тых калгасьнікаў, якія былі найлепшымі працаўнікамі.

Для гэтае мэты з чыстага прыбытку гаспадаркі адлічваецца, згодна пастановы агульнага сходу, спэцыяльная сума ў прэміяльны фонд. Агульны-ж сход на падставе дакладу Савету калгасу робіць пастанову аб выдачы прэміі найлепшым працаўнікам, належным чынам ацэньваючы іх працу. Мэтад прэміраваньня зьяўляецца вельмі цікавым у сувязі з тым, што ён стварае ўмовы для спаборніцтва паміж лепшымі і адстаючымі групамі калгасьнікаў. Пры гэтым сама прэмія адыгрывае меншую ролю, чымся ўплыў грамадзкасьці на адстаючыя групы, якія жадаюць падцягнуцца, каб не адстаць ад лепшых працаўнікоў. У гэтых адносінах таксама могуць значна дапамагчы насьценгазэты і іншыя мэтады грамадзкасьці.

Агранам **Кудзінаў.**

---

**Батракі, бедната і серадняк!! уперад—адзіным фронтам за буйнае калгаснае земляробства, супроць хутароў і кулака.**

---

# Аб паказальных калгасах.

Калгаснае будаўніцтва з кожным днём усё больш і больш разгортваецца. Калгасным будаўніцтвам цікавяцца ня толькі асобы працуючыя ў вёсцы непасрэдна па сельскай гаспадарцы, але і тыя працаўнікі, якія знаходзяцца ў горадзе. Калгасным будаўніцтвам цікавяцца чырвонаармейцы, камсамольцы, вучні розных школ, рабочыя заводаў і г. д.

Арганізуемыя ў сучасны момант калгасы маюць вялікую патрэбу пазнаёміцца з правільнай арганізаванай каляктыўнай гаспадаркай, дзе праца пастаўлена правільна, дзе мэтады аплаты працы стымулююць падняцьце яго вытворчасьці, пазнаёміцца з пастаноўкай работы ў такім калгасе, дзе ўсе галіны гаспадаркі правільна арганізаваныя, дзе правільна пастаўлены вучот іх і г. д.



Стада галяндзкіх кароў у калгасе.

Усё гэта выклікае неабходнасьць стварэньня такіх калгасаў, якія былі-б прыкладнымі для існуючых калгасаў і бядняцка-серадняцкага сялянства, уступаючага ў калгасы, каб ад гэтых калгасаў магчыма было-б перанесьці прыклад рацыянальнага вядзеньня гаспадаркі ў іншыя калгасы. Для гэтага неабходна, каб у кожнай акрузе па лініі акркалгассаюзу і зямельных органаў былі вылучаны некалькі калгасаў, у якіх павінны быць сканцэнтраваны сродкі і абслугоўваньне ў такім напрамку, каб гэтыя калгасы сапраўды зьяўляліся паказальнымі. Якія калгасы можна лічыць паказальнымі. Паказальнымі гаспадаркамі павінны быць калгасы, якія маюць ня менш 500 гект. зямлі, г. зн. такія калгасы, якія маглі-б скарыстаць перавагі буйнага каляктыўнага земляробства. Дзеля лепшага абслугоўваньня паказальных калгасаў і наведваньня іх з боку зацікаўленых устаноў і арганізацый неабходна старацца каб яны (па-

казальныя калгасы) былі вызначаны недалёка ад акруговага цэнтру. Пры вылучэньні паказальных калгасаў неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу на тое, каб яны па сваім ухілам адпавядалі с.-г. напрамку раёну, у якім яны знаходзяцца. Як павінна весьціся праца ў паказальных калгасах. А вось як. Пасьля дэталёвага вывучэньня вызначаных паказальных калгасаў з эканамічнага і натуральна-гістарычнага боку неабходна прыступіць да складаньня ў тых калгасах арганізацыйных плянаў прадугледзеўшы ўкамплектаваньне іх усімі сродкамі вытворчасьці і капіталамі на працягу 2-х год.

Для ажыцьцяўленьня лепшага агранамічнага абслугоўваньня, паказальныя калгасы павінны мець на сталай працы агранома.

Абслугоўваньне паказальных калгасаў павінна праводзіцца ў такім напрамку, каб яны былі прыкладамі рацыянальнага вядзеньня гаспадаркі як з арганізацыйнага, так і з гаспадарчага боку. На пытаньне правільнай арганізацыі працы і яе аплаты неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу і паступова пераходзіць да нормiраваньня працы і аплаты па нормах выпрацоўкі.

Ня менш увагі неабходна ўдзяліць у паказальных калгасах пастаноўцы ўліку, справаздачнасьці і культасьветнай працы, з тым, каб на працягу 1 году поўнасьцю ліквідаваць няпісьменнасьць сярод членаў гэтых калгасаў.

Вось асноўныя моманты, якія неабходна праводзіць у жыцьцё пры вызначэньні паказальных калгасаў.

М. Ц.

---

**Сялянка! Уваходзь у калгасы, калгасы разьняволяць цябе ад кухні, пялёнак і ўсіх дамавых клапот і павядуць да новага, культурнага жыцьця.**

---

# Ці добра мы скарыстоўваем трактары.

Часта ад калгасьнікаў і ад акруговых саюзаў калгасаў мы чуем, што цэнтральныя ўстановы не даюць патрэбнай колькасьці трактараў для калгасаў. Ляцяць тэлеграмы, лісты, едуць самі калгасьнікі ў Менск і гавораць, што пасеўная кампанія зрываецца з прычыны недахопу трактараў, і што далейшы тэмп каляктывізацыі спыніўся.

Некаторым можа быць і невядома, што трактар яшчэ дэфіцытная машына і што нашы заводы яшчэ мала выпускаюць трактараў (трактары выробляе ў нашым Саюзе толькі Пуцілаўскі завод у Ленінградзе) і на нашу БССР у гэтым годзе вызначана супроць нашых запатрабаваньняў вельмі невялікая колькасьць машын. Таму задаволіць усе запатрабаваньні было немагчыма.

Зьвернемся цяпер да справы скарыстаньня трактараў у нашых калгасах. Частковыя абсьледваньні гаспадарак у некалькіх акругах паказалі, што большасьць машын поўнасьцю не скарыстоўваюцца і што некаторыя калгасы за ўвесь год узаралі трактарам 26 гект. Ёсьць калгасы, якія атрымаўшы добры трактар „Інтэрнацыянал“ (напр., камуна „Пралятарская Рэспубліка“) за вясну гэтага году ўспахалі ў сябе 30 гект. і не жадалі даць трактар суседняму калгасу, які ня меў магчымасьці, за недахопам цягавай сілы, успахаць увесну сваячасова зямлю. Арцель „1 Мая“ мае магутны трактар у 45 сіл, скарыстоўвае яго

выключна на млыне. Трактар камуны „Чырвоная зорка“ пачаў працу на машыне толькі 19-V, калі больш паловы ўсіх палявых работ было закончана, а да гэтага часу трактар быў у рамонце. Магчыма было яшчэ даць шэраг прыкладаў няпоўнага скарыстаньня і нават нядоб-

**Калгасы—перадавы авангард вёскі ў барацьбе за падвышэньне ўраджайнасьці, за новую, буйную сацыялістычную гаспадарку.**




Выезд трактара на працу ў калгасе „Новы сьвет“ на Гомельшчыне.

рых адносін да каштоўнай машыны—трактара, але і гэтых досыць, каб стала ясна ці добра скарыстоўваюцца стальныя коні.

У той час, калі ў Сібіры на адзін трактар прыходзіцца апрацованай глебы 240 гект. у нас у сярэднім па калгасам толькі 81 гектар.

Ці можа так далей быць? Ці магчыма даваць машыны для такога нямэтазгоднага скарыстаньня? Калі мы мяркуем, ці просім трактар, дык трэба, атрымаўшы яго, даць яму поўную нагрузку, падрыхтаваць добрага трактарыстага, пабудаваць цёплы гараж, і калі ў сваім калгасе яшчэ работы ня будзе, дапамагаць вакольнаму насельніцтву працай (хаця-б за грошы) і суседнім калгасам, якія маюць патрэбу ў цягавай сіле.

Увесну і ў страдную пару трэба працаваць на трактары ў дзьве, у тры зьмены, як гэта робіцца ў Сібіры, на Урале і на Каўказе.

Трактар будзе тады мэтазгоднай машынай, калі ён будзе працаваць ня менш як 120 дзён у годзе.

Будзем мець надзею, што ў далейшым нашы калгасы зразумеюць, якую вялікую карысьць можа даць добрае скарыстаньне трактара, і які пераварот у гаспадарцы можа зрабіць такая машына. Гэта магчыма толькі пры належным доглядзе за ёю і поўным скарыстаньні ўсіх магчымасьцяй трактара, а разам з тым трэ‘, каб над гэтай машынай быў добры і кваліфікаваны гаспадар.

А. А.

---

# Гатункова-насеннаводныя справы і чарговыя пытаньні па гатунковаму насеннаводзтву ў калгасах.

У адшуканьні спосабаў, мэтадаў і мерапрыемстваў па падняцьцю вытворчасьці сельскай гаспадаркі галоўную ролю адыгрываюць сродкі вытворчасьці.

Сярод сродкаў вытворчасьці сельскай гаспадаркі вялікае значэньне мае якасьць насеньня. Як ад добрай глебаапрацоўваючай машыны, добрай цягавай сілы і ўменьню іх выкарыстаць залежыць якасьць апрацоўкі глебы, дык ад добраякасьці насеньня залежыць і вышыня ўраджаю глебы, пры аднолькавых умовах апрацоўкі, угнаеньня і г. д.

Пад дабратой насеньня трэ‘ разумець, з аднаго боку, надворную (фізычную) якасьць насеньня (г. зн. чыстату, вагу, усхожасьць, натуру і г. д., якая забясьпечваецца ачысткай, сарціроўкай і належным захоўваньнем насеньня), і з другога боку, унутранаю (біолёгічную) якасьць—гатунковасьць. У параўнаньні з беспародным насеньнем—гатунак насеньня мае вялікі ўплыў на ўраджайнасьць ня толькі пры аднолькавых умовах апрацоўкі, угнаеньні і г. д., а і пры аднолькавых кліматычных умовах.

Неабходна адзначыць, што пры самых лепшых спосабах і машыннай апрацоўкі глебы, дрэнныя кліматычныя ўмовы, пры садзейнічаньні шэрагу хвароб і шкоднікаў расьлін (сажа, іржаўчына і інш.) губяць ураджай. У такіх выпадках супраўдным і амаль адзіным сродкам барацьбы за высокі ўраджай зьяўляецца правільна пастаўленая гатункова-насеннаводная справа. Гатункова-насеннаводная справа падзяляецца на:

1) вывучэньне мясцовых гатункаў насеньня, адбор лепшага і акліматызаванага насеньня або штучнае вывядзеньне новых гатункаў і іх спрабаваньне ў розных глебавых і кліматычных умовах, з мэтай вывучэньня больш карыснага прыставаньня іх да розных раёнаў (гэтай справай павінны займацца дасьледчыя станцыі);

2) размнажэньне лепшых і прыстасаваных да розных раёнаў гатункаў (гэтай справай павінны займацца вызначаныя для насеннаводных мэт гаспадаркі—саўгасы, калгасы, насеннаводныя т-вы);

3) распаўсюджваньне сярод насельніцтва гатунковага насеньня (гэтай справай павінна займацца снабжэнчаская частка с.-г. каапэрацыі);

4) дзяржаўны кантроль якасьці насеньня (як фізычнай, так і гатунковай) у гаспадарках, якія займаюцца размнажэньнем гатунковага насеньня і ў установах, якія забясьпечваюць насеньнем насельніцтва ў парадку насенназабясьпечаньня (гэтай справай займаюцца кантрольна-насенныя станцыі).

Вось у кароткіх рысах уся пабудова, так званай, цяжкай індустрыі (фабрыкі) па забясьпечаньні сельскай гаспадаркі насеньнем, як сродкам вытворчасьці.

Гатунковае насеннаводзтва прадстаўляе строга агрыкультурны характар работы. Ахова і падвышэньне гатункавай чыстаты, ахова ўсходжасьці, ахова гатунковага насеньня ад засьмечанасьці і ад заражэньня living рознымі хваробамі—зьяўляецца запатрабаваньнямі, якія складаюць асноўную мэту і галоўны агратэхнічны сэнс разьвіцьця гатунковага насеннаводзтва.

Гатунковае насеньне, як масавае агрыкультурнае мерапрыемства, накіраванае да перабудовы сялянскай вытворчасьці і рацыяналізацыі яе, зьяўляецца адным з стымуляў вытворчага каапэраваньня і каляктывізацыі сялянства на больш высокай агрыкультурна-тэхнічнай базе.

Праз распаўсюджваньне гатунковага насеньня вырашаецца ня толькі задача падвышэньня ўраджаю, а і ажыцьцяўляецца стандартызацыя прадуктаў паляводзтва, што мае ўплыў на падвышэньне якасьці і зьмяншэньне сабекошту вытворчасьці ў прамысловасьці.

У зьвязку з гэтым масавая замена беспароднага насеньня гатунковым насенным матар'ялам зьяўляецца задачай першачарговай важнасьці.

Прынятай урадам 5-годкай гэта задача пастаўлена на вырашэньне. Перад земорганамі і каапэрацыйнымі арганізацыямі пастаўлена заданьне на працягу 5-і год арганізаваць гатункова-насеннаводную справу так, каб да канца 5-цігодкі зрабіць замену ўсяго беспароднага сялянскага насеньня на гатунковае насеньне.

Калі-ж заўважыць, што амаль да апошняга часу на абшарах Беларусі гатункова-насеннаводнай справай не займаліся, і што гатункова-насеннаводная справа зьяўляецца надта складанай справай, якая патрабуе самых добрасумленных і чулых да сябе адносін і належных ведаў,—дык перад кожнай гаспадаркай, якая вызначана па размнажэньню гатунковага насеньня, перад кожным працаўнікам земорганаў і каапэрацыйнай арганізацыяй, кіраўнікам саўгасу, дасьледчыкам, калгасьнікам, рабочым каляктыву, саўгасу, кантрольнікам і г. д., ад працы якіх залежыць пасьпяховасьць гатунковага насеннаводзтва, павінна паўстаць пытаньне ці ўсё ім і іншымі зроблена і робіцца, каб справа па гатунковаму насеннаводзтву мела посьпех і каб пастаўленае ўрадам заданьне было цалкам і як належыць выканана.

Да справы масавага размнажэньня гатунковага насеньня галоўным чынам прыцягваюцца калгасы. У гэтую васеньнюю пасеўную кампанію ў пяршыню ў масавай колькасьці дадзена калгасам для размнажэньня гатунковае зімовае жыта. Патрэбна падкрэсьліць, што гэта насеньне не зьяўляецца насеньнем звычайнага насеннаснабжэньня, а мае мэту ў гэтых калгасах, у адпаведнасьці з пастаўленымі перад насеннаводнай справай задачамі, арганізаваць размнажэньне гэтага насеньня.

Калгас, вызначаны як гаспадарка па размнажэньню гатунковага насеньня, павінен памятаць адказнасьць у выкананьні заданьня ўраду па гатункова-насеннаводнай справе і тую пачэсную ролю фабрыкі па вырашчваньню насеньня, як сродку вытворчасьці сельскай гаспадаркі.

У зьвязку з гэтым патрэбна значна зьвярнуць увагу на:

1. Тэхнічную падрыхтаванасьць калгасьнікаў да справы па насеннаводзтву, як у сэнсе тэхнічных ведаў па распазнаньню размнажаемага гатунку, месца, спосабу пасеву і догляду за пасевамі, апрацоўкі і ўгнаеньня глебы, уборкі, малацьбы, ачысткі, сартоўкі, сушкі і захаваньню ўраджая, праверкі якасьці насеньня, аховы гатунковай чыстаты ад засьмечанасьці і г. д., такі ў сэнсе выхаваньня чулых адносін, зацікаўленасьці да ўсёй справы насеннаводзтва.

Трэба памятаць, што насеннаводная справа больш, чымся якая справа патрабуе да сябе самых чулых адносін, чыстаты, дакладнасьці ў працы і замілаваньня да справы.

2. Забясьпечанасьць гаспадаркі належнымі гаспадарчымі сродкамі вытворчасьці, як-та: патрэбнымі глеба-апрацоўваючымі і сартовачнымі машынамі, малатарнямі, насеннасушылкамі, машынамі і атрутамі для пратручваньня і барацьбы са шкоднікамі, сеялкамі, угнаеньнямі, добрымі сьвірнамі і гумнамі, прыстасаванымі для захаваньня гатунковага насеньня, мяшкамі, шчупамі, бломбірамі.

3. Поўнае забясьпечаньне выканае аграмінімум ва ўсіх агранамічных мерапрыемствах па размнажэньню гатунковага насеньня.

4. Устанаўленьне сталай сувязі з кантрольна-насеннымі ўстановамі па праверцы фізычнай і гатунковай якасьці насеньня, а таксама для атрыманьня кансультацый па пытаньням насеннаводзтва.

5. Сталы вучот усіх работ па вырашчваньню насеньня і па нагляду за пасевамі з тым, каб пры ўстанаўленьні цеснай сувязі з дасьледчымі ўстановамі дапамагчы апошнім у вывучэньні праверкі карысьці размнажаемага насеньня.

Пастаўленыя перад калгасамі задачы па гатункова-насеннаводнай справе могуць быць вырашаны пры непасрэдным і жывым удзеле і дапамозе агранамічнага пэрсаналу.

Патрэбна, каб аграпэрсанал земорганаў і працаўнікі с.-г. каапэрацыі і асабліва працаўнікі калгаснай сыстэмы, у сваёй працы па абслугоўваньню калгасаў, больш. зьвярнулі ўвагі практычнай дапамозе калгасам у справе насеннаводзтва.

Аднак, у пасьпяховасьці насеннаводнай справы ў калгасах, асноўную ролю павінна адыграць актыўнасьць, зацікаўленасьць і замілаваньне гэтай справай калгасьнікаў, якія павінны скарыстоўваць грамадзкія мэтады працы, на падставе сацыялістычнага спаборніцтва, і высьвятленьня ўсіх сваіх мерапрыемстваў праз друк.

Часопіс—„Шляхі Каляктывізацыі"—дапаможа нашай агульнай працы па гатунковаму насеннаводзтву.

Было-б вельмі пажадана, каб шэраг калгасаў выказаліся ў гэтым часопісу пра арганізацыю ў сябе вытворчасьці гатунковага насеньня.

Аграном **Бялоў.**

---

**Дзень „Ураджаю і Каляктывізацыі" дзень інтэрнацыянальнай змычкі ўсіх працоўных.**

# У барацьбе за калгасы.

*(Лоеўскі раён, Гомельскай акругі).*

### Затрымліваюць калектывізацыю.

Калі пачынаеш вывучаць пытаньні калгаснага будаўніцтва, якія павінны быць вядомы мясцовым працаўнікам, дык заўважаеш, што яны вельмі мала займаюцца ня толькі практычным ажыцьцяўленьнем гэтых пытаньняў, але нават і іх вывучэньнем.

Яны думаюць, што трэба толькі паўтарыць ужо дадзеныя дырэктывы і напрамак, трэба толькі пераваліць іх з раёну ў сельсавет, як справа сама пойдзе. А між тым ідзе яна сама вельмі марудна і пры тым не кароткім прамым шляхам, а пакручаста.

Так, у мінулым годзе ў вёсцы Ручаёўка арганізаваліся 2 калгасы: „Красный Остров“ і „Красный Смагарин“. Першы, згодна агульнае




Першая машына на Беларусі для раськіданьня гною ў яўрэйскай камуне „Орт“ на Магілеўшчыне.

лініі партыі і ўлады, застаўся на месцы і атрымаў лепшую зямлю. „Красному Смагарину“ партячэйка параіла высяліцца на вёску на вучастак, куды думалі высяляцца кулакі.

Ні мясцовая партячэйка, ні мясцовае крэдытнае т-ва, ні прадстаўнікі Райкому партыі і Райвыканкому, часта наведваўшыя вёску не дадумаліся, што 2 невялічкіх калгасы, арганізаваныя ў аднэй вёсцы (у 2 калгасах у той час было да 23 сялянскіх двароў) трэба злучыць у адзін і пакінуць яго на месцы.

У гэтым годзе смагарынцы, ня гледзячы на пераноску часткі пабудоў на адведзеную зямлю, зьліваюцца з „Красным Островом“, прызнаюць сваю памылку ў выбары вучастку і патрабуюць пераземляўпарадкаваньня. Зараз гаспадарча-закончанае земляўпарадкаваньне трэба перарабляць і пры тым з вялікім спазьненьнем.

Між тым, гэтую справу магчыма і патрэбна было зрабіць з вясны гэтага году, калі частка беднякоў, прызначаных да высяленьня на пасёлкі, жадала далучыцца да калгасу „Красный Остров“. Але ў гэты час знайшліся такія „законьнікі“, у тым ліку і земляўпарадкавацелі, якія казалі: „Паколькі праэкт і межы зацьверджаны, вам прыдзецца заставацца на пасёлках“. Да рэчы сказаць, вёска „Ручаёўка“ яшчэ ня прыступала да пераноскі пабудоў на пасёлкі.

У вёсцы „Грохаў“ Ручаёўскага сельсавету ў гэтым годзе арганізаваны калгас з 22 двароў. У час земляўпарадкаваньня калгаснікам пра-

панавалі выбіраць лепшае месца, што яны і зрабілі, выбралі, па іх думцы, сам лепшы вучастак, да якога далучылі ўсе зямельныя лішкі і лес мясцовага значэньня. Пад калгасам аб'ядналі 645 *га*.

Калі-ж земляўпарадкаваньне было фактычна скончана вучастак калгасаў быў прызнаны вельмі кепскім, а калгасьнікам параілі застацца на сядзібах. Пасьля гэтакай парады калгасьнікі няведалі што рабіць. Частка сябраў на чале з кіраўнікам трымалася за ўжо адведзены вучастак, частка за сядзібу. Пасьля меркаваньняў прышлося пайсьці, у мэтах захаваньня калгасаў, на пераземляўпарадкаваньне калгасу і ўсёй вёскі.

Ці ведалі аб ходзе земляўпарадкаваньня ўсіх гэтых калгасаў раённыя арганізацыі?

Мы думаем, што ведалі.

### Крэдыты скарыстоўваюцца не па прызначэньню.

Калгасы „Красный Остров“ і „Красный Смагарин“, не пасьпеўшы як сьлед арганізавацца, абагуліць маемасьць сяброў, выплачвалі членам заробную плату з атрыманых крэдытаў за такія работы, як перавозка ўласных пабудоў на вучастках калгасу, касьба сенажаці, уборка ўраджаю і г. д.

Калі-ж куставы аграном зьвярнуў увагу калгасаў на недапушчальнасьць гэткага зьявішча, партячэйка „паправіла агранома“ і параіла калгасам працягваць выплату зарплаты з крэдытаў. Характэрную ролю ў гэтай справе адыгрывала Ручаёўскае Крэдытнае Т-ва. Замест таго, каб выправіць няправільную лінію калгасьнікаў, паасобныя работнікі яго садзейнічалі выдачы крэдытаў на заробную плату. Апрача гэтага, калгас „Красный Остров“ за крэдыты набывае аблігацыі 3-й пазыкі індустрыялізацыі на суму да 300 рублёў.

### Яўна парушаецца лінія партыі.

Некаторыя калгасьнікі замест таго, каб поўнасьцю абагуліваць уласную маемасьць, частку яе прадаюць на старану, а атрыманыя грошы скарыстоўваюць на ўласныя патрэбы. Ёсьць выпадкі продажу калгасьнікамі ўжо абагуленае маемасьці. Так, членамі калгасу „Красный Смарагин“ прадана 2 валы, 1 конь, 1 пабудова. Адзін калгасьнік прадаў цялё ад абагуленай пляменнай каровы, а грошы ўзяў сабе. Пры гэтым продаж маемасьці стараюцца абгрунтаваць усялякімі махінацыямі: то патрэбнасьцю грошай на лячэньне, то для пакрыцьця запазычанасьці, то пад выглядам разводу жонкі з мужыком.

Аднойчы перад пачаткам работы па абгульваньню маемасьці жонка аднаго члена праўленьня калгасу прыходзіць да кустаюга агранома з такой заявай:

— Разьвядзеце мяне з мужыком. Ён мяне б'е, мы з ім не ў ладах. Хочу разводзіцца і забраць уласную частку маемасьці.

Аграном растлумачыў, што ён разводамі не займаецца, а калі яна хоча развадзіцца, няхай ідзе ў сельсавет.

Прайшло некалькі дзён, ніякага разводу ня было, за тое частка маёмасьці гэтага „актывісты“ была прададзена, а іншая частка перакінута ў суседнюю вёску родзічам.

„Як табе ня соромна, браце,—казалі сябры калгасьнікі.

— Гэта ня я вінаваты, усё зрабіла мая жонка,—адказваў гэты „актывісты“.

На мясцох паасобныя кіраўнікі спажыўкаапэрацыі, у тым ліку—партыйцы не зрабілі належных крокаў да таго, каб палепшыць умовы ўцягненьня калгасьнікаў пайшчыкамі ў спажывецкія т-вы.

### Дыфэрэнцыраваны пай не карысны для калгасьнікаў.

Даўно ўжо выдадзена палажэньне і правілы, якімі павінна кіравацца спажывецкая каапэрацыя пры каапэраваньні калгасьнікаў. Між іншым гэтае палажэньне на справе аказалася не карысным для калгасаў. Так, калгасьнікі павінны ўносіць у спажыўтаварыствы паі ў разьмеры 5 руб. з кожнага дарослага ад 16 год. Беднякі-ж—не калгасьнікі плацяць пай па такому разрахунку: 10 рублёў ад галавы двара і па 2 р. 50 кап. ад кожнага дарослага. Такім чынам, бядняк-калгасьнік, маючы 5 душ дарослых плаціць пай 25 рублёў, а бядняк—не калгасьнік—20 рублёў. Гэтае палажэньне трэба зьмяніць у бок стварэньня палёгкі калгасьнікам, у параўнаньні з індывідуальнымі гаспадаркамі. Зусім няправільна робіць, напрыклад, старшыня Ручаёўскага спажыўтаварыста, член партыі і член калгасу „Красный Остров". Ён з паасобных сямей беднякоў, уступіўшых у калгас, спаганяе паі ў разьмеры больш чым 5 рублёў ад кожнага дарослага.

— Ёсьць дырэктыва папаўняць паі,—заяўляе ён,—таму я і спаганяю. Пры тым мне калгас не дае сьпісаў сваіх членаў.

Падумайце толькі, ён ня мае магчымасьці ўзяць сьпісаў калгасу, членам якога састаіць сам.

### Кулак творыць сваю справу.

Каля „Красного Смагарина" да гэтага часу жыве быўшы дробны абшарнік і буйны лесапрамыслоўца, які штодзенна агітуе супроць каляктывізацыі. Вынікам яго агітацыі зьяўляецца нежеданьне батракоў, працаваўшых і працуючых у яго, ісьці ў калгасы і выхад з калгасу батракоў, членаў калгасу

Кулакі распаўсюджваюць чуткі аб тым, што ў некаторых частках савецкага саюзу праходзяць пагромы яўрэяў, што вось, вось пачнецца вайна і тады павешаюць усіх калгасьнікаў. Мала гэтага, кулакі ўжываюць і іншыя мэтады барацьбы: яны імкнуцца ўдарыць на рэлігійнае пачуцьцё несьвядомай часткі сялян.

— Ужо сайшоў з неба прарок Ільля, хутка будзе канец сьвету,—заяўлялі жанчыны бяднячкі з'агітаваныя кулацкім агітпропам.

Калі-ж агітацыя і розныя хлусьні не дапамагаюць, кулакі ўжываюць і больш жорсткія сродкі барацьбы, як напрыклад, падпалы, пабоі, нежаданьне падпарадкавацца савецкім законам і г. д.

Трэба раз назаўсёды пакончыць з нядбайнымі адносінамі да калгаснага будаўніцтва на вёсцы, прыцягнуўшы да гэтае справы ўсе бяз выключэньня органы і арганізацыі і паасобных працаўнікоў раёнаў і вёсак. Трэба было-б ужо даўно ад слоў перайсьці да справы.

**Якуб Драйчук.**

---

# Калектывізацыя на Бабруйшчыне.

Навакол пытаньня калектывізацыі па Бабруйшчыне ў гэтым годзе была разгорнута значная праца, у гэту працу была ўцягнута большасьць установ і арганізацый, а таксама завострана ўвага самога беднацка-серадняцкага насельніцтва, у выніку чаго маюцца значныя дасягненьні.

Калі па пляну калектывізацыі сельскай гаспадаркі меркавалася закалектывізаваць 9.000 *га*, то пры выкананьні пляну гэтая лічба аказалася нерэальнаю, яна значна павялічалася, а іменна, закалектывізавана ў новыя калгасы 13.178 *га*, што дае перавышэньне пляну на 46,42 проц.



Будынак сьвінаводзтва „Івань“ Слуцк. р., Бабр. акр.; частка племяннога стада заводу.

Прышлося некаторыя дробныя калгасы ўзбуйніць, такіх узбуйненьняў праведзена 15 на плошчы 2.407 *га* з прыёмам новых бядняцкіх сем'яў (прынята 221 сям.).

Сярэдні разьмер новаарганізаваных калгасаў ужо дасягнуў 183 *га*, замест намечаных па пляну 140 *га* плошчы; сярэдні разьмер усіх калгасаў на 15 ліпеня павышан да 157 *га*, замест 108 *га* на 1-X 1928 г.; створана 13 новых буйных калгасаў у бягучым годзе звыш 300 *га*.

Урэшце процант каапэраваньня плошчы і двароў павялічаны: плошчы з 0,94% на 1-X 1928 г. да 2,17% на 15 ліпеня 1929 г. двары адпаведна з 0,80% да 1,90%.

Калі застанавіцца на такім пытаньні, хто-ж усё-такі аб'яднаны ў гэтыя калгасы. А вось хто ў іх аб'яднаны: беднякоў—42,4%, серадзякоў—51,2% і заможнікаў—6,4%.

Заўважваецца некаторае ўзмацненьне і палепшаньне становішча старых калгасаў—нагрузка працоўнаю жывёлаю павялічана з 28 да 41 галавы на 100 *га* пахаці, палепшаны склад калгасаў, пашыраны мерапрыемствы па падвышэньню ўраджайнасьці і інш.

Але-ж поплеч з станоўчымі бакамі працы па каляктывізацыі, ёсьць шмат і адмоўных, на якіх ў кароткіх рысах і спыняюся.

Нам усім добра вядома, што асноўнымі штурхачамі на вёсцы ў справе правядзеньня каляктывізацыі вёскі павінны быць у першую чаргу сельсаветы, але-ж апошнія ў Бабруйшчыне гэтай надзвычайна сур'ёзнай рабоце ўдзялілі мала ўвагі, яны на гэтую справу чамусьці не зьвярталі належнае ўвагі. У гэтым напрамку работа з боку сельскіх саветаў праводзілася з некаторым „прахладцам“.

Так абстаіць справа з сельсаветамі, але-ж і з боку некаторых райвыканкомаў (Сьвіслацкі, Бабруйскі і Асіпавіцкі) ёсьць няўважлівыя адносіны да каляктывізацыі, у выніку чаго маецца невыкананьне пляну і заданьняў акрвыканкому па каляктывізацыі. У некаторых раёнах



Племянная сьвіньня з парасятамі сьвіназавода „Івань“ Слуцк. р., Бабр. акр.

(Сьвіслацкі, Стара-Дарoскі) недастаткова яскрава зразумелі напрамак на буйны калгас, мэтаю ставілі колькасьць адзінак, а ня процант каапэраваньня двароў і плошчы, у выніку чаго быў створаны шэраг няжыцьцёвых дробных калгасаў, прычым часам у вёсках, якія неземляўпарадкоўваюцца і не намечаны да земляўпарадкоўваньня,—частка гэткіх калгасаў павінна разваліцца і яны развалiліся.

Калі-ж закрануць пытаньне абслугоўваньня калгасаў, дык аказваецца, што ўсё яшчэ назіраецца слабае абслугоўваньне з боку культасьветнага, агранамічна-вытворчага, арганізацыйнага і ў асаблівасьці індустрыяльна-тэхнічнага, у выніку чаго ня ўсюды ў дастатковай меры замацаваны вынікі па арганізацыі новых калгасаў, не ўпарадчаны ўнутраны распарадак у старых калгасах, меўшы шэраг недахопаў у правядзеньні вясеньняй пасеўнай кампаніі (нявыкананьне пляну засеву тэхнічных культур, ня ўсюды скарыстана ўгнаеньне, надзвычайна мала, што зроблена па торпаздабываньню, палепшаньню сенажаці і г. д.).

Выходзячы з усяго вышэйадзначанага, прэзыдыум акрвыканкому прыняў шэраг канкрэтных прапаноў, якія даюць правільны кірунак і шляхі разьвіцьця каляктывізацыі ва ўсёй Бабруйскай акрузе. Гэтыя дырэктывы зводзяцца да наступнага:

1) ні ў якім разе не паслабляць тэмпу каляктывізацыі, дабіваючыся да канца году ня менш 15.000 *га* плошчы, ахопленай новымі калгасамі (акрамя калфонду Мар'іна і Ўзбуйненьня);

2) у далейшай сваёй штодзённай працы рашуча трымацца напрамку на буйны калгас, дабіўшыся да канца году ня менш 200 *га* на новы калгас. Усю ўвагу на бліжэйшы час сканцэнтраваць у вёсках, дзе праводзіцца земляўпарадкаваньне, дабіваючыся максымальнага ахопу плошчы ў калгасах да іх абмежаваньня;

3) асаблівую ўвагу зьвярнуць прымежным раёнам, дабіцца максымальнага эфэкту ў галіне каляктывізацыі да канца году і разгарнуць шырокую працу па падрыхтоўцы і арганізацыі калгасаў у будучым годзе, маючы на ўвазе, што асноўная земляўпарадкоўчая работа будзе канцэнтравацца ў гэтых раёнах і што каляктывізацыяй павінна быць ахоплена ня менш 30% земляўпарадкаванай плошчы;

4) дасягнуць максымальнага ахопу каляктывізацыяй двароў пры земляўпарадкаваньні, трымаючы курс на перавод на калгасны статут цэлай вёскі;

5) арганізаваць тэрыторыю калгасу так, каб ён зьяўляўся асяродкам, а рэшту двароў у пасёлках расьсяліць так, каб была магчымасьць іх далейшага далучэньня да калгасу бяз новага земляўпарадкаваньня;

6) пашырыць сетку куст. аб'яднаньняў з новага бюджэтнага году да 20 адзінак, а Калгассаюзу зараз-жа пачаць падбіраць працаўнікоў;

7) акрземаддзелу паказана на неабходнасьць закончыць у гэтым годзе земляўпарадкаваньне і прыняць належныя меры да таго, каб усімі бяз выключэньня калгасамі ў працягу верасьня-кастрычніка месяцаў былі складзены арганізацыйна-вытворчыя пляны, дабіцца належнай якасьці гэтай працы і актыўнага ўдзелу калгаснай масы ў іх складаньні.

Трэба будзе на справу каляктывізацыі зьвярнуць асаблівую ўвагу ўсёй бабруйскай грамадзкасьці, і тады бязумоўна будуць цалкам выкананы ўсе тыя мерапрыемствы, якія вызначаны акруговым выканаўчым камітэтам, а іначай усе гэтыя пажаданьні застануцца толькі на паперы.

Трэба, каб партыйныя і камсамольскія ячэйкі таксама паставілі сваёй асноўнай задачай у рабоце на вёсцы каляктывізацыю апошняй.

Толькі пры такіх умовах мы нашу вёску здолеем больш шпаркім тэмпам штурхануць на сацыялістычныя рэйкі.

Сяргей Лодысеў.

---

**Прафсаюзы і шэфскія таварыствы! Ваша задача— у „Дзень ураджаю і каляктывізацыі" практычна дапамагчы калгаснаму руху на вёсцы.**

# Плян падрыхтоўчай працы і правядзеньня „Дню ўраджаю і калактывізацыі" па лініі калгассыстэмы БССР.

## I. Арганізацыйна-падрыхтоўчая праца.

### А. Растлумачальна-агітацыйная кампанія ў друку па высьвятленьню задач, парадку і мэтадаў правядзеньня „Дню ўраджаю і калактывізацыі" 13—14 кастрычніка 1929 году.

1) Зьмяшчэньне шэрагу артыкулаў у цэнтральных і мясцовых газэтах цэнтральнымі і акруговымі саюзамі калгасаў.

2) Тэрміновае выданьне да дню сьвята спэцыяльнага зборніку кіруюча-мэтадычнага характару сіламі вясковага аддзелу ЦК КП(б)Б, ЦК ЛКСМБ, НКАсьветы, НКЗему, Белкалгассаюзу і інш. каапэрацыйных цэнтраў.

3) Тэрміновае выданьне Белкалгассаюзам папулярнае брашуры аб становішчы калгаснага будаўніцтва да „Дню ўраджаю і калактывізацыі".

4) Тэрміновае выданьне лістоўкі аб мэтах і задачах „Дню ўраджаю і калактывізацыі".

5) Выпуск друкаваных спэцыяльных лёзунгаў прысьвечаных „Дню ўраджаю і калактывізацыі".

6) Выпуск спэцыяльнага нумару 4 часопісу „Шляхі калактывізацыі", прыстасаванага да „Дню ўраджаю і калактывізацыі".

7) Выпуск спэцыяльнай радыё-газэты, прысьвечанай гэтаму дню.

8) Выпуск спэцыяльных нумароў насьценгазэт у калгасах, хатах-чытальнях і школах.

### Б. Растлумачальна-арганізацыйная і падрыхтоўчая праца па лініі калгассыстэмы.

1. Калгасы на мясцох зараз-жа праводзяць падрыхтоўчую працу да ўдзелу ў выстаўках і конкурсах, якія будуць праводзіцца ў „Дзень ўраджаю і калактывізацыі" па раёнах і адначасова павінны стаць падрыхтоўкай калгасаў да Ўсебеларускай с.-г. выстаўкі. Гэтая падрыхтоўка павінна заключацца ў наступным:

а) падрыхтоўка калгасамі экспанатаў па розным галінам сельскае гаспадаркі;

б) падрыхтоўка раённай агранаміяй шэрагу дыяграм аб становішчы калгаснага будаўніцтва ў раёне і дапамога з боку агранаміі калгасам у падборы экспанатаў;

в) правядзеньне, у выпадку магчымасьці, шэрагу здымкаў у калгасах (працэсы работы, асабліва мэханізаваныя працэсы і г. д.);

г) прапрацоўка табліц з бюджэтамі калгасьнікаў, правілы ўнутранага распарадку, арганізацыя працы, балянсы калгасаў і г. д., адзначаючых эканамічныя і арганізацыйна-гаспадарчыя перавагі калектыўнае гаспадаркі перад адзінаасобнай гаспадаркай.

2) Правядзеньне ня менш чымся 2-х вытворчых суботнікаў сіламі калгасьнікаў для аказаньня дапамогі слабейшым калгасам і вясковай беднаце шляхам апрацоўкі палёў гэтых калгасаў і бядняцкіх гаспадарак, арганізацыі рамонту с.-г. інвэнтару, ачысткі насеньня, а таксама і інш. відаў вытворчай дапамогі.

3. Арганізацыя калгасна-агранамічных і сельска-гаспадарчых гурткоў, а таксама прыстасаваньне да дню сьвята адчыненьня арганізуючыхся ў калгасах грамадзкіх установ культурна-бытавога парадку, школ, ясьляў, дзіцячых садоў, пральняў, сталовак і г. д.

## II. Правядзеньне „Дню ўраджаю і каляктывізацыі“ ў калгасах.

1) Ва ўсіх калгасах непасрэдна праводзіцца сьвята „Дню ўраджаю і каляктывізацыі“. Гэтыя калгасы павінны праводзіць сьвята з прыцягненьнем шырокіх мас бядняцка-серадняцкага акаляючага насельніцтва, асабліва ўрачыста павінна праводзіцца сьвята ў буйнейшых і найбольш моцных калгасах, у цэнтрах куставых аб'яднаньняў калгасаў Беларусі.

2) Для ўдзелу ў с.-г. выстаўках і конкурсах у раённых цэнтрах, якія павінны мець аддзелы калгаснага будаўніцтва, калгасы, удзельнічаючыя ў выстаўках павінны вылучаць асобных прадстаўнікоў, з якімі і накіроўваюць усе свае экспанаты. У выпадку магчымасьці, калгасы павінны арганізоўваць карнавальныя паходы да месца выстаўкі, адначасова накіроўваючы чырвоныя абозы і г. д.

3) Сьвята ў калгасах пачынаецца пасяджэньнем с.-г. вытворчай нарады з шырокім удзелам як саміх калгасьнікаў, так і бядняцка-серадняцкай часткі акаляючых вёсак і пасёлкаў, з удзелам куставых аграномаў, прадстаўнікоў партыйных, камсамольскіх, каапэрацыйных, прафсаюзных, савецкіх і грамадзкіх арганізацый, а таксама рабочых, шэфскіх таварыств. У буйнейшых калгасах прымаюць удзел у нарадах прадстаўнікі акруговых саюзаў калгасаў і іншых установ.

4) На вытворчых нарадах праводзяцца даклады аб 5-гадовым пляне разьвіцьця народнае гаспадаркі, аб становішчы і задачах калгаснага руху, аб выніках закончанага с.-г. году ва ўмовах калгасаў на падставе справаздачы Праўленьня аб выкананьні заданьняў па аграмінімуму з ацэнкай праведзеных мерапрыемстваў па падвышэньню ўраджайнасьці, па выкананьню кантрактацыі і здачы хлебных лішкаў, а таксама разгледжваецца плян неабходнейшых мерапрыемстваў на будучы год. Апрача таго, праводзіцца ацэнка працы паасобных членаў калгасаў і прэміраваньне найлепшых працаўнікоў. Гэтае прэміраваньне праводзіцца з адлічэньняў ад прыбыткаў гаспадаркі ў выніку гаспадарчага году. Тыя калгасьнікі, якія езьдзілі ў экскурсыі за межы БССР, павінны зрабіць справаздачныя даклады аб паездцы. На вытворчых нарад патрэбна таксама дэталёва разгледзець пытаньне аб больш актыўным удзеле жанчын у справе каляктывізацыі.

5) Перад адчыненьнем вытворчых нарад можна праводзіць мітынгі, на якіх праводзяцца лятучыя даклады і лекцыі па пытаньням барацьбы за ўраджай, а таксама за каляктывізацыю сельскае гаспадаркі.

6) У канцы паседжаньня вытворчых нарад арганізоўваецца праверка фактычнага выкананьня калгасамі дагавароў па сацыялістычнаму спаборніцтву, а таксама арганізоўваецца заключэньне новых дагавароў, выходзячы з пастаноў сакратарыяту ЦК КП(б)Б ад 7/IX 1929 г. і дадатковых паказаньняў належных цэнтральных установ.

7) У тых калгасах, дзе ў мэтах іх узбуйненьня і ўзмацненьня праведзена належная падрыхтоўка па далучэньню да іх паасобных вёсак, пасёлкаў і іх частак, а таксама гаспадарак паасобных груп бядняцка-серадняцкага сялянства, у час правядзеньня сьвята ўраджаю і калактывізацыі праводзіцца ўрачыстае далучэньне гэтых пасёлкаў і г. д. да калгасаў.

8) Урачыстае адчыненьне ў калгасах арганізаваных грамадзкіх установаў культурна-бытавога парадку: школ, ясьляў і інш. сеткі лікпунктаў, вячэрніх школ для малапісьменных, а таксама новых будынкаў, сельска-гаспадарчых пабудоў, тэхнічных прадпрыемстваў і г. д.



Сяляне вёскі Заградзьдзе здаюць 1 сноп у карысьць індустрыялізацыі краіны Ўрэцкаму крэдытнаму с.-г. таварыству.

9) Азнаямленьне экскурсый працоўных сялян і інш. грамадзян, якія накіраваліся ў калгасы—з канкрэтнымі вынікамі калгаснага будаўніцтва і ва ўсіх галінах сельскае гаспадаркі калгасаў, дэманстраваньне трактарнай апрацоўкі глебы і г. д.

10) Правядзеньне шырокай падпіскі з боку ўсіх калгасьнікаў на 3-ю пазыку індустрыялізацыі з 100% выкананьнем лёзунгу: „Ніводнага калгасьніка без аблігацыі 3-й пазыкі“ і падпіскі на часопіс „Шляхі каляктывізацыі“, а таксама на розныя цэнтральныя і акруговую газэты.

11) Увечары ў калгасах праводзіцца сьвяткаваньне з пастаноўкай спэктакляў, агра-судоў, інсцэніровак, харавых і музычных нумароў, а таксама дэклямацыяй, скарыстаньнем радыё з гучна-гаварыцелямі, там, дзе яны ёсьць, з дэманстрацыяй кіна-фільмаў і г. д.

12) Правядзеньне Дню ўраджаю і каляктывізацыі „ў нацыянальных калгасах павінна паслужыць днём інтэрнацыянальнай змычкі паміж працоўнымі—калгасьнікамі нацменшасьцяй Беларусі і бядняцка-серадняцкімі сялянскімі вёскамі.

---

# ПАЛЯВАЯ ГАСПАДАРКА

**Дзень ураджаю і калектывізацыі—дзень генэральнае падрыхтоўкі да Ўсебеларускай сельскай і прамысловай выстаўкі.**

## Сыпучыя пяскі і змаганьне з імі.

У мясцовасьці, дзе зьяўляюцца сыпучыя пяскі, вельмі вялікая небясьпека ад іх гаспадару. Платы і нават будынкі заносяцца пяском так, што прыходзіцца адграбаць яго рыдлёўкамі, як зімою сьнег. Пры моцных вятрох пяскі перасоўваюцца і засыпаюць на сваім шляху ўсё, што пападае: квітнеючыя палі, сенажаці, лес, шляхі, чыгункі, рэчкі, вазёры і нават цэлыя вёскі.

Пяскі падзяляюцца на лятучыя, паўзадзярнелыя і задзярнелыя. Лятучыя, ці сыпучыя пяскі ня маюць ніякай расьліннасьці. Паўзадзярнелыя пакрыты напалову травой, а задзярнелыя пяскі маюць дзёран з суцэльнай травяной расьліннасьцю.



Пяскі засыпаюць вёску.

Лятучыя пяскі зьяўляюцца больш усяго ад неасьцярожнасьці саміх людзей. На палёх і лясох з лёгкай пясчанай і супясчанай глебай, неабмежаваная пасьба жывёлы, скарыстаньне з год ў году пясчанай глебы пад пахаць, без дастатковага ўгнаеньня, высечка лесу і патрава жывёлай маладых дравесных усходаў вядзе да таго, што пясчаная глеба паступова распульхняецца і ператвараецца ў пясок. Дажджы і вясеньнія воды вымываюць лёгкія, перагнойныя і глiністыя часткі, якія замацоўвалі сабой глебу, у выніку чаго застаецца адзін толькі пясок. Пясок пераносіцца ветрам далей і засыпае суседнія палі, стварае новыя плошчы лятучых пяскоў.

Сыпучыя пяскі—ліха працоўнага сялянства. Шкода, якую яны прыносяць, дасягае вялізных памераў. Каб насельніцтва выратаваць ад гэтае небясьпекі,—з пяскамі трэба весьці бязьлітасную барацьбу.

Засяленьне пяскоў расьліннасьцю ёсьць галоўнае мерапрыемства барацьбы з імі. Спосабаў і мерапрыемстваў замацаваньня пяскоў існуе шмат.

Так, пры набліжэньні пяскоў да вёскі, каб ня даць магчымасьці пяску засыпаць будынкі, карыстаюцца пляценямі рознай вышыні, якія робяцца ўпоперак руху пяскоў. Паверхню пяскоў пакрываюць радкамі ці палоскамі накрыж—дзёрнам, гноем і торфам. Накладваюць



Незамацаваныя пяскі засыпаюць лес.

гальлё ў рады ўпоперак ветру з прымацаваньнем да зямлі калочкамі. Але гэтыя спосабы ўжываюцца для замацаваньня невялічкіх пясчаных плошчаў, да таго-ж яны затрымліваюць рух пяскоў толькі часова.

Найлепш замацаваць пяскі можна засевам іх травянымі і драўлянымі расьлінамі, якія сваімі карэньнямі зьвяжуць пяскі і тым самым не дадуць магчымасьці ветру раздуваць яго.

*Карысьць ад замацаваньня пяскоў.* Замацаваныя пяскі з няўжытковых плошчаў ператвараюцца ў карысныя. Замацаваныя плошчы спыняюць моц вятроў, затрымліваюць сьнег, рэгулююць разьмеркаваньне глебавай вады і тым санічаюць падняцьцю ўраджайдзейнасьці палёў.



Замацаваньне пяскоў.

Засаджаныя лесам пяскі, акрамя выкарыстаньня шалюговых дубцоў на кашы, палукашы і карзіны, даюць прыбытак ад лесу.

Барацьба з пяскамі дае добрыя вынікі пры каляктыўнай працы зацікаўленых гаспадароў. Для гэтага на вёсках трэба стварыць лесамэліарацыйныя таварыствы.

*Якія расьліны лепш разводзіць на пяскох.* На пяскох можа расьці шмат дрэў і хмызьняку. Для замацаваньня карыстаюцца вярбою (івай), шалюгой. Шалюгу для гэтай мэты трэба ўмець выбіраць. Ужываецца шалюга з цёмначырвонай і жоўтай карой, у якой парасткі (дубцы) пакрыты шызым налётам з прадаўгаватымі, прыхіленымі да

дубцоў пупышкамі. Лісьце ў іх прылягае к пабегам, вузка-зялёнае, доўгае, жорсткае. З траў ужываецца пясчаны авёс.

Замацаваньне пяскоў можа быць натуральнае і штучнае. Папярэдняе, часовае замацаваньне пяскоў можа быць зроблена праз: 1) забарону пасьвіць жывёлу на пясчаных плошчах; 2) пасеў і пасадку пясчаных траў і 3) шэлюгаваньне. Для замацаваньня сыпучых пяскоў самай лепшай расьлінай зьяўляецца шэлюга.

Канчатковае-ж замацаваньне робіцца праз засеў дрэвастану на пясковых плошчах.

Шэлюгу трэба нарыхтоўваць увосень пасьля ападу лісьцяў, або ўвесну, да іх распусканьня.

Для нарыхтоўкі дубцоў і чаранкоў высякаюцца 2 або 3-гадовая кусты шэлюгі. Дубцы можна рэзаць на часткі (чаранкі), даўжынёй 50 сант.

Нарыхтоўка шэлюгавых прутоў робіцца адначасова з пасадкай ці за некалькі дзён да яе. Толькі ў тых мясцох, дзе нельга набыць шэлюгі ў час пасадкі, нарыхтоўку робяць раней. Але тады яна павінна захоўвацца ад марозу, ветру і сонца; яе трэ‘ складаць у пунях ці гумнах. Пры астачы яго ад асеньняй пасадкі—нарыхтаваныя дубцы закопваюцца ў канаўкі і пакрываюцца зямлёю да 25 сант. таўшчыні. Наогул пасадачны матар‘ял павінен быць сьвежы.

**Е. Міхасенка.**

---

# Як церці лён, каб атрымаць добрае валакно і кудзелю.

Каб атрымаць добрае валакно ільну, з якога потым выйдзе добраякаснае палатно, а таксама і добрую кудзелю, за якую пры продажы на рынку дадуць больш грошай, недастаткова толькі вырасьціць, адмачыць лён і абы як апрацаваць яго ў далейшым. Для гэтага трэба лён як належыць апрацаваць.



Мялка з чыгуннымі зубчастымі вальцамі.

Папярэдняй перад выціраньнем лёну працай зьяўляецца сушка лёну, на якую трэба зварачваць асаблівую ўвагу. У нашым клімаце сушка лёну ў сушнях (авіны, лазьні) ёсьць нічым неўстранімая неабходнасьць. А гэта сушка больш за ўсяго і псуе лён і кудзелю. Лён высушаны ў звычайных сялянскіх сушнях, дае кудзелю моцна пракопчаную дымам, часта цемнаватую, валакно нямоцнае ад празьмернага награваньня лёну. Лепш за ўсё можна сушыць лён у лазьнях або сушнях, дзе ёсьць дымавыя і выцяжныя трубы. Для топкі сушні зусім нягодны смалістыя пароды дроў, як хвоя і елка. Лепш за ўсё тапіць асінавымі альбо альховымі дрывамі. Прычым раіцца спачатку натапіць печку ў сушні, а потым садзіць для сушкі лён, каб такім чынам пазбавіцца капчэньня лёну ў дыму. Тэмпэратура пры сушцы не павінна быць вышэй 50—60 градусаў. Пасьля такой сушкі лён можна церці.

Трэба адзначыць, што звычайныя сялянскія шчэлявыя церніцы зусім нягодны для мяцьця лёну. Праца на іх цяжкая; вельмі марудная,

а горш за ўсё тое, што на гэтых церцінах лён ад вялікай колькасьці ўдараў языком церніцы рвецца, дае большы выхад пакулі, зьмяншая выхад кудзелі. Гэтую дапатопную прыладу апрацоўкі лёну трэба ўжо зусім выкінуць з ужываньня. Драўляныя трохвальныя церціны таксама маюць вельмі буйныя недахопы. Яны хутка зношваюцца. Пры перавозцы лёгка псуюцца, ад дажджу валы разбухаюць, а ад сонца трэскаюцца, карабацяцца і становяцца зусім нягоднымі для працы. Гэтыя церніцы вельмі рвуць і перасякаюць кудзелю і вельмі часта прапускаюць скрозь валы зусім не абмяты лён. Такі лён пры трапаньні перасякаецца на паклю.

Лепш за ўсё карыстацца церніцамі Дэлера, якія магчыма купіць у любой с.-г. каапэрацыі. Гэтыя церніцы маюць чыгунныя вальцы з рыфленай паверхняю і бываюць з 2, 6, 10 і 12 вальцамі. Для апошніх патрабуюцца моцныя мэханічныя рухавікі. Трэба адзначыць, што, напрыклад, 2-хвальцавая церніца таксама мае недахопы, але ўсё-ж такі яна ў ва ўсіх адносінах лепш усякай драўлянай церніцы. Каштуе 2-хвальцавая чыгуначная церніца каля 50 руб.

Такім чынам, 5-6 сялянскіх двароў, аб'ядняўшыся для куплі церніцы, могуць у першы год лёгка зьвярнуць затрачаныя грошы на пакупку гэтай прылады тым, што атрымаюць лепшае валакно і каштаўнейшую кудзелю ў параўнаньні з апрацоўкай на звычайнай шчэлевай церніцы.

Аграном Крупень.

---

**14 кастрычніка—дзень сьвята ўраджаю і калектывізацыі—дзень падагуленьня дасягненьняў калгаснага будаўніцтва, узмацненьня і ўзбуйненьня старых і арганізацыі новых буйных калгасаў.**

---




**Калектывізацыя вёскі—шлях узмацненьня абароназдольнасьці Савецкае краіны.**

## Новая крыніца прыбытку.

Разьвядзеньне трусоў зьяўляецца аднэй з прыбытковых крыніц сельскай гаспадаркі. Пры ўмелым разьвядзеньні трусоў, кожны селянін-трусавод зможа атрымаць наступны прыбытак:

1) **Прыбытак ад прадажы скур трусоў**, цана якіх дасягае да 5 руб. за штуку. Скуркі труса ідуць пад афарбоўку скурак катоў, вавёрак, баброў, выдры і лісы. Перад сусьветнай вайной трусовых скурак прадавалася на сусьветным рынку мільён штук.

2) **Прыбытак ад продажу мяса**. Мяса трусоў па сваёй спажыўнасьці заслуговае вялікай увагі. Па зьместу самай каштоўнай матэрыі—бялка, яно перавышае мяса курэй. Мяса трусоў, складаецца з 61 проц. вады, 32,41 проц. бялка, 4,12 проц. тлушчу і 1,68 проц. соляй. Між тым, як мяса курыцы складаецца з 70 проц. вады, 18,49 проц. бялка, 9,3 проц. тлушчу і 0,91 проц соляй. Мяса трусоў рэкамэндуецца для жыўленьня хворых.

У Ангельшчыне мясам трусоў карыстаюцца шырокія пласты насельніцтва. У 1909 г. у Ангельшчыну было ўвезена мяса трусоў на 7,1 млн. р., у 1910 г.—на 7,9 м. р.

Мяса трусоў мае вялікі збыт і ў Амэрыцы. Аб ім кожны дзень у працягу некалькіх год друкуецца ў амэрыканскім друку. Цэны на мяса трусоў такія, як і на іншыя харчовыя прадукты.

У горадзе Парыжы, сталіцы Францыі, мяса трусоў мільёнамі кілёграм спажываецца насельніцтвам. Там ёсьць рэстараны, якія ў дзень спажываюць 1.000—2.000 штук трусоў. Толькі ў СССР насельніцтва яшчэ не азнаёмілася з гэтым мясам, яго спажыўнасьцю і смакам. Установы па грамадзкаму выхаваньню дзяцей, а таксама лячэбна-санаторныя (установы) могуць зьяўляцца шырокім спажыўцом гэтага мяса.

3) **Прыбытак ад прадажы трусавай шэрсьці і скуры.** Трусавая шэрсьць атрымліваецца, галоўным чынам з бракованых скурак, з скурак летняга забою і маленькіх трусікаў, якія няпрыгодны як мех. Шэрсьць трусоў па сваёй якасьці каштоўней авечай, з яе вырабляюцца розныя пуховыя вырабы: цёплыя панчохі, рукавіцы, сарочкі. Скуркі ідуць на выраб замшы, лайкі і скарыстоўваюцца для дзіцячых, жаночых чаравікаў, торбачак і інш. У часе імпэрыялістычнай вайны з іх скуры Нямеччына выrabляла чаравікі салдатам.

4) Гноем трусоў вельмі карысна ўгнайваць гароды і сады.

5) З кішак выrabляюць струны для музычных інструмантаў.

6) З абрэзу трусовых скурак, якія бываюць пры вырабцы, робіцца клей, які ўжываецца для сталярных і розных картонных вырабаў. У Францыі, яшчэ ў даваенны час, была вядомая фабрыка „Болелы Ся“,

якая спэцыяльна выробляла гэты клей. Па зьвестках 1923 году Францыя вырабляла з абрэзкаў 2 мільёны кілё клею, які прадавала па 4 р. кілё. Расія ў даваенны час увозіла гэты клей з-за меж, за пуд якога плаціла 20 руб.

Каб уявіць сабе больш наглядна, якое значэньне мае разьвядзеньне трусоў у сельскай гаспадарцы ў нашай хутравой прамысловасьці, зьвернем увагу на лічбавыя зьвесткі разьвядзеньня трусоў замежамі. У Францыі ў 1913 годзе было куплена ў сялян 100 мільёнаў трусовых скурак і мясцовы зварот ад прадажы скурак раўняўся амаль 1 мільярду франкаў (франк у той час 25 капеек), а замежны зварот Францыі ад прадажы трусовых скурак перавышаў за апошнія гады 100 мільёнаў франкаў. Яшчэ ў 1890—99 г.г. у Парыжы налічвалася каля 25 майстэрняў, у якіх апрацоўвалася трусовая шэрсьць і скуркі. У гэтай прамысловасьці працавала 4.500 мужчын і 2.000 жанчын. Па зьвестках 1926 г. у гэтай прамысловасьці Францыі занята каля 30.000 рабочых. Вельмі шпарка пашыраецца трусаводзтва ў Амэрыцы. Амэрыка штогодна ўвозіць з Бельгіі і іншых краін больш 100 мільёнаў скурак. У Нямеччыне да Франка-Прускай вайны 1870—71 г. трусаводзтва было разьвіта вельмі слаба. Але за час імпэрыялістычнай вайны немцы пераканаліся, што трусаводзтва дае значны прыбытак селяніну. Зьвярнуўшыся на бацькаўшчыну палонныя немцы шпарка пачалі разводзіць трусоў. У сучасны момант нямецкая хутровая прамысловасьць мае вялікую колькасьць мясцовых трусовых скурак.

У Ангельшчыне трусаводзтва таксама вельмі разьвіта, яна прадае на ўнутраны рынак да 40 мільёнаў сваіх скурак і ўвозіць з іншых краін таксама да 40 мільёнаў.

Аўстрыя яшчэ да імпэрыялістычнай вайны мела трусавыя гаспадаркі коштам у дзесяткі тысяч рублёў. Яна прадавала больш 20 мільёнаў скурак і вывозіла цэлымі параходамі-халадзільнікамі трусавыя тушы ў Ангельшчыну.

У Бэльгіі яшчэ ў 1886 г. былі вялікія майстэрні па стрыжцы трусавой шэрсьці. Яна вывозіла ў Амэрыку больш як на 3 мільёнаў доляраў трусавых скурак. Данія скарыстоўвае ў сябе на 150 мільёнаў розных трусавых прадуктаў.

Разьвядзеньне трусоў у Расіі было распачата даўно, але да гэтага яно не прыняло масавага характару. З прычыны незабясьпечаньня збыту прадуктаў сельская гаспадарка ня была зацікаўлена іх разьвядзеньнем. Пастаўленная Савецкай уладай задача разьвіцьця трусаводзтва вельмі каштоўная. Правядзеньне яе ў жыцьцё павінна выклікаць спаборніцтва паміж паасобнымі раёнамі, акругамі, саўгасамі і трусаводнымі таварыствамі. Правядзеньне гэтае задачы ў жыцьцё павінна быць ускладзена на сельска-гаспадарчую і асабліва на жывёлаводную каапэрацыі. Пры гэтым трэба падкрэсьліць, што трусаводзтва павінна мець вялікае значэньне для бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і зьяўляцца штурхачом да каапэраваньня і каляктывізацыі. Яно таксама зьяўляецца адной з культурнейшых задач саўгасаў і калгасаў. У сельскай гаспадарцы трусаводзтва можа быць спажыўцом розных расьлінных адкідаў. Калгасы і бядняцкія гаспадаркі, моладзь і жанчыны павінны быць у гэтай працы тым актывам, на якія Савецкая ўлада будзе апірацца пры правядзеньні гэтае вельмі каштоўнай задачы ў жыцьцё.

**Галубчык.**

[1] Трусаводны племрассаднік саўгасу Сеньніца.




**У „Дзень ураджаю і калектывізацыі“ яшчэ больш узмацнім барацьбу з цемрай, п'янствам і рэлігіяй.**

# Абавязковыя агрыкультурныя палепшаньні ў садоўніцтве.

Мерапрыемствы, вызначаныя пастановай Савету Народных Камісараў БССР ад 19/III-29 г., якія павінны, у першую чаргу, абавязкова выконвацца ў садоўніцтве і гародніцтве с.-г. камунамі, арцелямі, сав. гаспадаркамі, бязумоўна, зьяўляюцца карыснымі для ўсяго працоўнага насельніцтва. Мы лічым, што належны догляд за садам зьяўляецца неабходным, у чым-бы карыстаньні ён ні знаходзіўся.

*1. Ачыстка ствалоў.* Пакуль дрэва маладое—кара на ім гладкая. З гадамі яна грубее, дае шчыліны і зьяўляецца прытулкам для розных шкоднікаў. Пры нядбайнасьці штамб (ствол) зарастае мохам і лішайнікамі, якія затрымліваюць доступ цяпла і паветра. У спустошанай, кіслай, ваданепрапушчальнай глебе з цяжкай падглебай, пры значнай гушчыні карон—пладовыя дрэвы вельмі абрастаюць лішайнікамі і мохам.

І наадварот—вольны доступ паветра, цяпла і сьвятла, што дасягаецца пасадкай у 10—12 мэтраў адлегласьці (рад ад раду), натуральны вадасьцёк (пры значным схіле рэльефу мясцовасьці)—значна зьмяншаюць лік лішайнікаў і шкоднікаў у садзе.

Лепшай парой для ачысткі ствалоў дарослых дрэў у нашых умовах зьяўляецца другая палова *кастрычніка і пачатак лістапада.* Надвор'е для гэтай працы лепш хмарнае (ня дрэнна калі імжыць дожджык), калі кара цягне вільгаць і лёгка будзе жалезным скрэблам здымаць лусачкі амяртвелай кары разам з лішаямі і мохам. Увосені трэба прыступіць да ачысткі пладовых дрэў з досыць грубай карой. Ачыстка кары робіцца трохкутнай жалезнай скрэблай, насаджанай на драўляны кіёк. Старая кара досыць асьцярожна здымаецца скрэблай, пакуль ня зьявіцца жоўтаватая гладкая кара. Ні ў якім разе не чапаць сьветла-зялёную, жывую кару. Аскрэбеная кара, бязумоўна, павінна зьбірацца і паліцца, бо гэтым мы зьнішчым шмат яечак шкоднікаў, грыбных спор і г. д. Пасьля ачысткі кары дрэва атрымлівае больш здаровы выгляд.

*2. Пабелка ствалоў.* Пасьля ачысткі кары трэба хутка прыступіць да пабелкі ствала і бліжэйшых частак грубых галін.

Лепшай парой для пабелкі, бязумоўна, зьяўляецца восень, канец кастрычніка і пачатак лістапада ў добрую сонечную пагоду. Тады ўжо з вясны ня трэ' будзе рабіць пабелкі, бо ўлетку кара асабліва вымагае вольнага доступа паветру.

Вапну трэба за некалькі дзён гасіць паволі малымі порцыямі вады. Добра, калі вапна сама па сабе на вільготным паветры пагасілася за 2—3 тыдні раней. Наогул трэба сьцерагчыся, каб сьвежа-пагашанай

вапнай не пашкодзіць кару дрэва. Чым маладзей дрэва, тым больш небясьпекі. Таму маладыя яблыні, ігрушы да 15—18 год нельга абмазваць вапнай. Для гэтай мэты магчыма маладыя дрэвы ў 5—15 год абмазваць рашчынам крэйды ў зьнятым малацэ. Мешаніна для пабелкі робіцца гэткім чынам: на 1 вядро вады бярэцца 1 кілёгр. 600 гр. (4 фунты) вапны (сухой) і 1 шклянка гліны. Вельмі пажадана ўсыпаць у гэтую мешаніну яшчэ 400 гр. (1 ф.) жалезнага купарвасу. Тады грыбныя споры будуць зьнішчаны, кузуркі ня знойдуць больш сабе прыпынку. Дрэвы, якія з восені будуць абмазаны вапнавым малаком, ня так хутка псуюцца апёкам кары і наогул лепш выносяць холад. Пабелка звычайна робіцца пэндзлем.

*3. Зьбіраньне і зьнішчэньне сухога лісьця і пладоў*—не вымагаюць ніякіх выдаткаў і, бязумоўна, павінны быць выкананы ўвосень, або



Буйнаплодная суніца „Шарплес“ у міжрадзьдзях 12-гадовага саду пад Гомлем.

ў канцы сакавіка, калі сьнег пачне асядаць. Калі сьнег у садзе—тады лепей прыкметна сухое лісьце, якое прымацавана да галін павуцінай і захоўвае неабмяжованую колькасьць вусені „баярышніцы“. Ужо ў канцы красавіка—у пачатку траўня яны пачынаюць псаваць пучкі (пупышкі), пазьней лісьцікі. Сухое лісьце абавязкова трэба зьбіраць і паліць. Абыйсьці сад трэба некалькі раз. Таксама неабходна зьбіраць і паліць сухія плады „муміі“, якія захоўваюць зародкі вельмі шкоднага для пладоў грыбка „манільля“. У маладых садох на галінках (пераважна аднагадовых) магчыма знайсьці часам пярсьцёначкі з яечак шоўкапрада—персьцянёвага, якія спачатку красавіка трэба зьняць і спаліць. Маладыя сады неабходна па некалькі раз абыйсьці і сабраць лісьце, яечкі—спаліць. На працягу лета ападкі (пашкоджаныя плады) трэба зьбіраць і зьнішчаць.

Праф. **М. Бурштэйн.**

# Завод пладова-ягадных він Белхарчтрэсту ў гор. Ворша.

У апошні час, пачынаючы з 1925 г., у Беларусі шпарка пашыраецца новая галіна тэхнічнай пераробкі садовых прадуктаў—пладова-ягаднае віньніцтва. Стыхійна, нават пры адсутнасьці высококваліфікаваных спэцыялістаў гэтай спэцыяльнасьці, узьнікаюць заводы пладова-ягадных він,—у большасьці выпадкаў саматужнага характару. Заводы гэтыя выпускаюць на нашы рынкі значную колькасьць пладова-ягаднага віна. Так арганізаваўся завод Менсельпрому пад гор. Менскам, які вырабляе каля 7.000 вёдзер віна ў год. Апрача таго, цэлы шэраг іншых ар-



Пладова-ягадны завод на Аршаншчыне.

ганізацый як каапэратыўных, так і дзяржаўных у розных акругах Беларусі арганізуюць гэту вытворчасьць.

Ясна, што зьяўленьне і пасьпешнае разьвіцьцё пладова-ягаднага віньніцтва тлумачыцца наяўнасьцю спрыяючых для гэтага эканамічных фактараў. Добрая база сыравіны, значны попыт на таннае і добрай якасьці пладова-ягаднае віно, у параўнаньні з прывознымі і дарагімі вінаграднымі вінамі, зьяўляюцца галоўнай прычынай высокай рэнтабельнасьці гэтага віду пераапрацоўкі.

Аднак, саматужная пастаноўка работы і адсутнасьць адпаведна абсталяваных навейшымі машынамі вінных скляпоў у значнай ступені павялічвае сабекошт віна, а таксама пагаршае яго якасьць, што зьяўляецца тормазам разьвіцьця пладова-ягаднага віньніцтва.

У бягучым годзе Белхарчтрэстам у Воршы, на месцы ліквідаванага піўнога заводу, ствараецца вялікі, узорна машынізаваны завод пладова-ягадных він з пачатковай вытворчасьцю каля 20.000 вёдзер віна ў год. Завод гэты мае добрае памяшканьне, добры склеп і загранічнае абсталяваньне.

Маюцца наступныя складаныя машыны:

1. Пладовая драбілка „Грэйф“—машына заводу Майфарта, якая перамывае садовіну—вытворчасьцю ў 120 пудоў яблык у гадзіну.

2. Машына для выйманьня костак № 13 фірмы Герберта—вытворчасьцю 200 клг. у гадзіну.

3. Гідраўлічны прас ёмістасьцю кошыкаў у 1.600 літраў, заводу Майфарта.

4. Два шрубавых віньніцкіх прасы ёмістасьцю кошыкаў у 935 літраў кожны.

5. Стэрылізуючы фільтр Зэйтца.

6. Фільтр для звычайнага фільтраваньня заводу Зэйтц, маркі „Фурка 4“, вытворчасьцю да 5.000 літраў у гадзіну.

7. Пастэрызатар Зэйтца „Велокс 2“ для пастэрызацыі віна, якое наліваецца ў бочкі, з аўтоматычным ахалоджаньнем яго да звычайнай тэмпэратуры склепа—вытворчасьцю да 750 літраў у гадзіну.

8. Пастэрызатар для бутэлечнага віна і стэрылізаваных сокаў, з катлом для награваньня вады, фіг. 598 фірмы Каліш—ёмістасьцю ў 500 літравых бутэлек.

9. Падстаўка для мыцьця бутэлек „Унівэрсаль“, вялікая модэль фірмы Каліш—вытворчасьцю каля 1.200 бутэлек у гадзіну, і інш. машыны на агульную суму ў 67.408 руб.

Вытворчасьць будзе абслугоўвацца і кантраляваццa лябараторыяй заводзкага тыпу.

Як відаць з прыведзенага, усё абсталяваньне і ёмістасьць памяшканьняў разьлічана на вялікую вытворчасьць заводу і таму ў далейшым, разам з пашырэньнем вытворчасьці віна, будзе ўведзена на Беларусі вытворчасьць стэрылізаваных сокаў. Шырокая вытворчасьць дасьць магчымасьць зьнізіць сабекошт продуктаў і значна павялічыць збыт. Адпаведныя машыны і абсталяваньне ўжо атрыманы; пакуль што робяцца досьледы ў лябараторных маштабах.

Асноўнае перабсталяваньне і рамонты пладовага заводу ўжо закончваюцца і ў бягучым годзе будзе выраблена 123.000 літраў віна, якое па асартымэнту разьмяркоўваецца наступным чынам:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Віна з суніц | —9.840 літраў | Віна з чырв. парэчак— | 9.840 літраў |
| „ „ маліны | —2.460 „ | „ „ агрэсту— | 4.920 „ |
| „ „ чарніц | —9.840 „ | „ „ розн. яблык— | 86.100 „ |
| | | Усяго | 123.000 літраў. |

У асноўным завод будзе забясьпечаны мясцовай сыравінай, аднак некаторыя, менш распаўсюджаныя ў Аршанскай акрузе пароды ягад, як-та: суніца, чырвоныя парэчкі, агрэст, прыдзецца дастаўляць з суседніх акруг. Такое становішча ненармальнае і задачай пладаводаў і агрономаў у бліжэйшы час стварыць для заводу мясцовую базу сыравіны. Неабходныя ўмовы для гэтага маюцца.

Белхарчтрэст, арганізуючы першую буйную і правільна пастаўленую гаспадарку вытвару віна і стэрылізаваных пладова-ягадных сокаў, зьяўляецца піонэрам у гэтай новай тэхнічнай пераапрацоўцы садовых продуктаў. Пажадаем яму посьпехаў.

Аграном-садавод **Ю. Равенка.**

Ворша—зав. „Спартак“.

# Пашырайце пасевы многалетняй гародніны.

Пастановай Усесаюзнага Зьезду Саветаў СССР і апошняй пастановай ЦВК СССР—шырока пастаўлена пытаньне аб забясьпечаньні пролетарскіх цэнтраў—гароднінай.

Адсутнасьць гародніны востра адчуваецца ў пэрыяд—красавік—ліпень. Гародніны з парнікоў не хапае і цана на яе настолькі высокая, што яна ня можа набывацца масавым спажыўцом—рабочым.

Прыгародным саўгаспадаркам, калгасам, садова-гародным таварыствам трэба з восені гэтага году прыступіць да закладкі многалетніх гароднін з рэбарбару, зямляной ігрушы (тамінамбура), многалетняй цыбулі, шчаўя і хрэну.

Усе пералічаныя культуры выгадны тым, што пры добрым доглядзе, які складаецца з 2-х—3-х-разовага матыкаваньня паміж радоў, полкі ад пустазельля і сваячасовага ўнясеньня гною яны даюць добры ўраджай на працягу 10—15 г.

Прычым ураджай атрымліваецца рана вясною, што дае для рынку вялікую колькасьць зяляніны, багатай вітамінамі [1]).

Выдаткі на многалетнюю гародніну многа менш выдаткаў па цяплічнай і парніковай культуры гародніны, што дае магчымасьць гэту гародніну, праз каапэрацыйныя ўстановы прадаваць па даступнай цане для працоўнага насельніцтва.

У замежных краінах—Ангельшчына, Галяндыя, Нямеччына і Злучаныя Штаты Паўночнай Амэрыкі—усе буйныя гароды акружаны плянтацыямі многалетняй гародніны.

*Многалетняя цыбуля.* Культура многалетняй цыбулі вельмі простая, непераборлівая і добра ўдаецца па ўсёй БССР. У залежнасьці ад глебы—можа быць высаджана цыбуля-батун (татарская) альбо шніт-ладух (рэзанец). Цыбулю можна разводзіць насеньнем альбо дзяленьнем старых кустоў.

Насеньне высяваюць вясною рана на градках, затым у жніўні альбо верасьні расаду перасаджваюць на новыя грады, пад кольшак, па некалькі маладых расьлін у ямку, на адлегласьці: на добра ўгноеных глебах на 35×35 см. расьліну ад расьліны, на больш худых—глебах на 25×25 см. Калі ўвосень ня ўдалася зрабіць перасадку, яе можна зрабіць рана вясною, але-ж увосень пасадка лепш сябе адчувае, чым увесну.

На пескавых глебах лепш саджаць цыбулю-батун, якую інакш называюць пескавая. Цыбуля-батун на добрай глебе па лісьцях не адрозьніваецца па знадворнаму выгляду і смаку ад звычайнай рэпчатай цыбулі. Батун патрабуе, каб раз у 2 гады пад кожны куст увосені клалі гной з попелам, у працягу году 2 разы праматычыць паміж радоў і вясною абарваць усе кветкавыя стрэлкі, бо апошнія забіраюць шмат пажыўных сокаў, памяншаючы гэтым ураджай лісьцяў.

Калі жадаюць мець сваё насеньне можна частку плянтацыі пакінуць выключна пад насеньне, не абрываючы насенных галовак і лісьцяў. Зялёнае лісьце, якое ідзе ў продаж пачынае прабівацца раней, чым увесь сьнег сойдзе з палёў. Яно прабіваецца з зямлі ў адзін час.

Цыбуля шніт-ладух адрозьніваецца ад батуна крыху драбнейшымі і больш салодкімі лісьцямі. Куст з кожным годам пашыраецца і разрастаецца так, што праз 3—4 гады можна адзін куст падзяліць на 40 і больш дзетак, або можна кожны год увосень адбіраць па 10—15 частак і рассаджваць, а рэшту пакідаць на месцы.

[1]) Вітаміны—каштоўная частка спажывы, якая маецца найбольш у расьлінах.

Для ежы бяруць лісьце з вясны да восені. Вельмі добра для цыбулі гнаёвая жыжка з кароўяга гною і попелам у ліпені м-цы.

Ня гледзячы на моцныя марозы 40° Ц. ўзіму 1928 г., уся пасадка, як увосень 1928 г., так і старых кустоў 1926 г. цыбулі-батун і шніт-лауха засталіся пры Жыздрынскім Садова-Гародным Тэхнікуме (б. Бранскай губ.) цэлая на ўсе 100%. Гэта сьведчыць, што кліматычныя ўмовы БССР для цыбулі спрыяючыя.

Шпарка пашыраўшы гэтую культуру магчыма цану на лісьце цыбулі (зялёны лук) паменшыць у тры і больш разы і дастаўляць яго на рынак у патрэбнай колькасьці.

Цыбуля дасьць гаспадарцы добры прыбытак.

Аб іншай многалетняй гароднiне, як рэбарбару, земляной ігрушы і інш. пагаворым у другім артыкуле.

Аграном Л. **Калер**.

---

# Краты—абаронцы расьлін.

Крата звычайна лічаць шкоднікам саду і гароду. Вядома, што яго ходы на градах непрыемны, але зямлю, якую ён выкідае, можна хутка прытаптаць. Там, дзе крот зьяўляецца ў значным ліку, мусіць шмат знаходзіцца для яго пажывы і садаводу трэба рабіць нешта іншае, каб крата прагнаць. Трэба рабіць захады зьнішчыць пажыву для яго ў садзе ці градзе. Крот мае вельмі добры нюх, дзякуючы чаму, ён у зямлі шпарка адшуквае, дзе знаходзіцца для яго спажыва. Жывіцца ён кузуркамі, вусеньню, мядзьведкамі, драцянымі чарвякамі, вельмі шкоднымі, калі яны зьявяцца ў значным ліку. Крот ня ўжывае расьліны. Ён выключна жывіцца кузуркамі. Нямецкі вучоны Г. Шатлэбэн дасьледваў зьмест жывата крата і знайшоў: у 104 выпадках (забітых кратоў) лічынку майскага жука-хрушча, у 99 выпадках драцянага чарвяка, у 96—станожак, у 65—дажджавых чарвей і ў 28—мурашак. Крот узімку не засыпае і дзіркі, якія ён пакідае на паверхні глебы, зьяўляюцца вельмі карыснымі для доступу паветра ў глебу.

Крата ня варта забіваць. Калі яго блізкасьць не пажадана, яго можна хутка прагнаць, папырснуўшы зямлю вадой з газай (на 2000 частак вады 1 частку газы).

**М. Б—н.**

---

# Экспарт садавіны і падвышэньне яе таварнасьці.

Кожны з нас добра ведае, што экспарту прадуктаў у цяперашні час удзяляецца сур'ёзная ўвага. З другарадных прадуктаў, экспартуемых у замежныя краіны, даволі віднае месца займае экспарт садавіны.

У мінулым годзе, напрыклад, Дзяржгандльбелам было вывезена ў Нямеччыну, Аўстрыю і інш. краіны звыш 200 вагонаў садавіны.

У 1927 годзе Белсельтрэстам для спробы быў вывезены ў Нямеччыну адзін вагон яблык (у 32 клгр. скрынях)—антонаўкі, камянічкі

штрэйфлінга. Ня гледзячы на тое, што былі пасланы выключна вышэйшыя маркі садавіны „нулёвая і зорная“, якія былі атрыманы ў Нямеччыне ў добрым выглядзе, рэалізаваны яны былі па вельмі нізкай цане: антонаўка па 5,75 марак[1]) за 32-кілёгр. скрыню, штрэйфлінг па 6,25 марак за 32-кілёгр. скрыню (бяз мыты—Франко Гамбург). Досьлед 1927 г. паказаў нам, што антонаўка і інш. гатункі яблык садоў Беларусі няма ніякага сэнсу вывозіць у дарага каштуючай тары. Пры адпраўцы садавіны ў замежныя краіны ў пакаваным відзе, у скрынях, мыта падвышаецца да 7 марак на 100 кгр., тады як пры адпраўцы насып‘ю (навалам) мыта складае ўсяго каля 2 марак на 100 кілёгр. садавіны. Апрача гэтага, мы пазбаўляемся выдаткаў на скрыні, стружку і інш.

Досьлед мінулага году паказаў, што найлепшым спосабам адпраўкі садавіны, асабліва антонаўкі, у замежныя краіны зьяўляецца адпраўка „насып‘ю ў вагон“, гэта значыцца бяз тары і матар‘ялу для пакаваньня. Я лічу, што некаторы посьпех на замежным рынку могуць мець каляровыя гатункі яблык як та: штрэйфлінг, апорт, цынамонавае, пры ўмове дапасаваньня да іх амэрыканскай дыяганальнай укладкі ў экспартныя скрыні, але гэтакі спосаб экспартаваньня, які шырока ўжываецца ў Крыму, нельга ажыцьцявіць на працягу бліжэйшага часу ў БССР, бо ён патрабуе асабліва спрактыкаваных пакоўшчыкаў і наяўнасьці садавіны вельмі высокай якасьці.

Экспарт з Беларусі каляровых гатункаў яблык: цітаўкі і пепіна літоўскага, пакаваныя ў 32-кілёгр. скрыні па крымскаму спосабу, ня даў станоўчых вынікаў. Не апраўдаў сябе таксама экспарт ігрушы „Слуцкая бэра“, ня гледзячы на тое, што яна была адпраўлена ў тары і ў пакоўцы згодна запатрабаваньням замежнага рынку.

З гатункаў яблык для Беларусі асабліва важнае значэньне мае экспарт антонаўкі, якая зьяўляецца пераважнай у садох Беларусі. Антонаўка 1½-фунтовая для экспарту няпрыгодна, бо яна кепска вытрымлівае транспарт. Пры адпраўцы антонаўкі насып‘ю ў звычайных таварных вагонах, яны падзяляюцца на 5 аддзяленьняў.

Для пераборак магчыма браць дошкі 3 і 2½ см. таўшчыні. Аддзяленьні будуюцца вышынёй да 1¾ мэтра. Дошкі засоўваюцца ў пазы паміж рэйкамі, якія прыбіваюцца да сьценак вагона. Паколькі антонаўка паступае на замежны рынак, як кухеннае яблыка і для тэхнічнай перапрацоўкі, няма ніякага сэнсу падзяляць яе на тарговыя маркі „палявую, зорную і крыжыкавую“, усе яны складаюцца без падзяленьня. Ня ідзе ў укладу толькі антонаўка—брак. Па разьмеру антонаўка сартуецца на 3 гатункі: дробная—велічынёй ад 5 да 6 сант., сярэдняя—6—7 сант. і буйная ад 7 см. і вышэй, у найбольшым дыямэтры папярочнага сячэньня яблыка. Неабходна мець на ўвазе, што дробнага яблыка не павінна быць у вагоне больш 20—25% ад агульнай колькасьці адпраўляемай антонаўкі, гэта значыць, што дробным яблыкам ня трэба займаць больш аднаго аддзяленьня ў вагоне.

Садавіна для ўкладкі ў вагон падвозіцца да чыгуначных станцый пакаваная ў стружку ў 48 ці 32-кілёгр. скрынях і асьцярожна выкладаецца, прычым спачатку запаўняюцца аддзяленьні першае і другое, потым 3 і 4 і ўрэшце 5 аддзяленьне. Дошкі ад пераборак засоўваюцца ў пазы паступова па меры ўкладкі яблык. Перад укладкай яблык падлога вагона ў аддзяленьні высьцілаецца пакавальнай паперай, ставяцца ў кожным аддзяленьні 2 выцяжныя трубы, зьбітыя

[1]) Нямецкая марка—каля 46 кап. на нашы грошы.

з 3 дошак 1½ мэтр. даўжыні. Трубы абкручваюцца саломай, каб не псавалася садавіна аб вострыя бакі іх. Сьцены вагона на вышыню ўкладкі яблык таксама абкладаюцца саломай пластом таўшчынёю 2—3 см., яблыкі кладуцца ў аддзяленьні па разьмерах: дробныя, сярэднія і буйныя, кожнае асобна, пластам таўшчынёй да 1 мэтра без пракладкі паковачным матар'ялам. Укладаць яблыкі трэба роўнымі радкамі пладаножкай уніз, але такая ўкладка займае шмат часу, а таму гэтага способу можна і не прытрымлівацца, а класьці яблыкі так, як яны укладаюцца ў ворах для выпату. Звычайны таварны вагон пры адпраўцы садавіны „навалам" зьмяшчае ў сярэднім 500 пуд. яблык. Зразумела, што ніякай перагрузкі яблык да месца прызначэньня не павінна быць. Вагон павінен адпраўляцца ў замежныя краіны з перастаўкай на восі. Ня гледзячы на ўкладку садавіны—вагон даволі тоўстым пластом (1 мэтр), яна прыбывае да месца прызначэньня ў прыгожым відзе. Па атрыманых Белсельтрэстам ад гандлёвага прадстаўніцтваў Нямеччыне зьвестках, Латвія ў 1927 годзе за садавіну, адпраўленую ў Нямеччыну „навалам" атрымала да 32 марак за 50 кілёгр.— цана даволі добрая. Наша антонаўка была рэалізавана ў замежных краінах у мінулым годзе таксама па здавальняючай цане. У прыватнасьці, Белсельтрэстам былі адпраўлены ў замежныя краіны ў 1928 г. „насып'ю", прырыхтованыя для Дзяржгандльбелу 50 вагонаў антонаўкі, якая карысталася посьпехам.

Пры адпраўцы антонаўкі „навалам", неабходна да чыгуначных накладных прыкладаць апроч спэцыфікацыі на яблыкі пасьведчаньне ад агранома, што на яблыках няма вошы сьвятога Язэпа, пасьведчаньне ад доктара, што ў раёне адгрузкі яблык няма пошасных хвароб і пасьведчаньне ад жалезнадарожнай адміністрацыі, што вагон прадэзынфікаваны паравозным парам.

Наколькі мне вядома ў бягучым годзе Дзяржгандльбелам мяркуецца вывазка садавіны ў замежныя краіны ў вялікай колькасьці, а таму нам трэба да гэтае вельмі адказнае працы падрыхтавацца своячасова. Трэба, шляхам утварэньня курсаў, падрыхтаваць рэалізатараў, трэба імкнуцца да вывазу таварнай садавіны ў магчыма большай колькасьці. Калі мы зараз ва ўдарным парадку імкнемся да падняцьця ўраджайнасьці палявых культур, дык у адносінах да ўраджаю садоў перад намі больш складаная задача: з аднаго боку падвысіць ураджайнасьць садавіны, з другога боку падвысіць процант вывазу таварнай садавіны і якасьць яе. Нашы сады даюць значную колькасьць садавіны-браку 30—33 проц. у сярэднім ад агульнага ўраджаю ў садох саўгасаў, а ў сялянскіх садох процант садавіны-браку яшчэ вышэй. Гэты процант неабходна зьнізіць, а зьнізіць яго магчыма добрым доглядам за садамі і правільнай барацьбой са шкоднікамі і хваробамі, асабліва з пархамі, якія часта абясцэньваюць ураджай. Нажаль, у нас цяпер адчуваецца востры недахоп у мядзяным купарвасе, чаму будзе цяжка правесьці належным парадкам барацьбу з пархамі. Ніколі ня трэба абмяжоўвацца абпырскваньнем садоў супроць пархаў толькі бардоскай жыжкай (рэцэптуры не паказваю, паколькі яна маецца ў падручніках па садоўніцтву), але трэба таксама ўжыць і апырскваньне садоў, да набраканьня пупышак, чыстым мядзяным купарвасам 1—2-проц. растворам, бо практыка барацьбы з пархамі ў саўгаскіх садох Беларусі паказала, што абпрыскваньне садоў толькі бардоскай жыжкай не заўсёды дасягае мэты.

Садавод **Р.**

---

# Садоўніцтва і тэхнічная перапрацоўка садавіны ў саўгасах Белсельтрэсту.

Белсельтрэст у галіне садоўніцтва мае вялікія дасягненьні. Да 1925 г. у саўгасах мелася ўсяго толькі 2 прамысловых пладовых выхавальнікі агульнай плошчай 10 гект. Цяпер ёсьць ужо 18 выхавальнікаў плошчай 123 гект., якія адпусьцілі ў бягучым годзе 80.000 штук саджанцаў яблынь і ігруш. У 1929 г. выпуск саджанцаў узрастае да 160.000 шт., а з 1930 г. выхавальнікі саўгасаў будуць выпускаць штогодна каля 300.000—350.000 шт. саджанцаў.

Цяпер пад садамі саўгасаў маецца 1.798 гект. зямельнай плошчы. Сады за пэрыяд вайны заняпалі і да гэтага часу ў значнай большасьці ўжо прыведзены ў культурны від і даюць добрыя ўраджаі, якія даходзяць часам да 16 тон садавіны з гект. (у сярэднім да 6 тон з гект).

Прамысловыя сады маюць у дастатковай колькасьці конныя апырскваецелі для барацьбы са шкоднікамі і хваробамі.

З 1926 г. Трэст паступова пачынае вырываць садовы рынак з рук прыватнага прадпрыемцы, часткова пакідаючы сады ва ўласнай эксплёатацыі, часткова перадаючы ўраджай садавіны на караню дзяржаўным і каапэрацыйным арганізацыям. Толькі ўраджай садавіны з малакаштоўных садоў, пасьля адказу ад куплі з боку дзяржаўных і каапэрацыйных устаноў, прадае прыватніку.

У мінулым годзе, напрыклад, Трэстам былі пакінуты ва ўласнай эксплёатацыі каля 60 проц. ад агульнага ўраджаю садавіны саўгаскіх садоў для экспорту і ўнутранага рынку. Экспартавана было 51 вагон антонаўкі і інш. гатункаў яблык у Нямеччыну і Аўстрыю.

Маючы на ўвазе мэтазгоднае скарыстаньне садавіны-браку, Трэст з 1925 г. пачынае разьвіваць тэхнічную перапрацоўку садавіны.

На ўсіх заводах Белсельтрэсту магчыма перапрацаваць за сэзон садавіны 1.030 тон, ягад—200 тон і пры наяўнасьці патрэбы—гародніны—500 тон.

Садавод **Ражкоў.**




# Пытаньні ўгнаеньня балот.

*(Па матар'ялах Забалацкай Балотнай Гаспадаркі).*

Тарфяныя балоты, незалежна ад іх пахаджэньня, зьмяшчаюць у сабе вялікую колькасьць расьлінных астаткаў і адрозьніваюцца ад іншай глебы малым запасам мінэральных соляй, якія зьяўляюцца неабходнымі для росту расьлін.

Дзеля гэтага пры культуры балот, апрача асушкі і апрацоўкі, мае вялікае значэньне і правільнае ўгнаеньне, якое павінна дапоўніць недахоп спажыўных для расьлін элемэнтаў. Запатрабаваньне балот адрозьніваецца ад запатрабаваньня палявой глебы тым, што першыя найчасьцей патрабуюць толькі калі і фосфар, бо азотам багата сама тарфяная глеба, а таксама і запасаў вапны ў нізкіх балотах зусім хапае.

Адзначаная асаблівасьць падкрэсьлівае пераважнае значэньне калі-фасфарытных угнаеньняў балот. Яскравым прыкладам, які сьцьвярджае ўсё гэта, зьяўляецца досьлед мінулага году, утвораны на асушаным балоце з культурай бульбы. Вынік досьледу відаць з наступнай табліцы:

| № па чарзе | СПОСАБ УГНАЕНЬНЯ | Ураджай з гэкт. у цэнтн. | Ураджай з дзес. у пуд. | У %% адн. кантр. |
|---|---|---|---|---|
| 1. | Без угнаеньня . . . . | 63 | 420 | 100 |
| 2. | 18 пуд. кал. солі . . . | 247 | 1640 | 392 |
| 3. | 24 п. тамасаўкі . . . | 61 | 407 | 97 |
| 4. | 18 п. кал. солі і 24 п. тамасаўкі . . . . . | 241 | 1006 | 382 |

Вынікі з гэтага досьледу наступныя: па-першае, угноеннае балота дае ўраджай (бульбы) у чатыры разы большы, чым няўгноенае, і, падругое, ня ўсюды, як угнаеньне, патрэбен фосфар. Гэта тлумачыцца тым, што нізкія, травяныя балоты маюць у сабе прыродны запас фосфару, які, паміж іншым, заўважваецца ў часе капаньня равоў у выглядзе сіняватай масы (вівіянт). Наколькі часам бывае вялікі запас прыроднага фосфару можна бачыць хаця-б з таго, што на 2-х сумежных вучастках зямлі, з якіх адзін у працягу 5-ці гадоў угнойваецца толькі каліем, а другі (кантрольны) каліем і фосфарам, ураджай сена ў мінулым годзе, пасьля шэрагу папярэдніх культур, быў для першага—58 цэнтнераў на гэктар, а для другога—57 цэнтнераў. Аднолькавая колькасьць ураджаю сьведчыць аб тым, што ў працягу 5 гадоў

культуры не ўтварылі значнай зьмены колькасьці фосфару ў тарфяной глебе. Практычная вартасьць памянёных матар'ялаў тая, што існуе пэўны тып балот (напр., Лукоўскі балотны масыў), які патрабуе толькі каліевага ўгнаеньня. Зразумела, што гэта значна зьмяншае выдаткі пры культуры балот, і павялічае карысьць гэтае апрацоўкі.

Пытаньне аб патрэбе для балота таго ці іншага ўгнаеньня, неабходна высьвятляць кожны раз у паасобку і гэта трэба ўважаць, як правіла.

Устанавіўшы неабходнасьць угнаеньня балот, важна знайсьці лепшыя для іх нормы. Досьледы Балотнай гаспадаркі за 1924—26 г. г. паказалі,



Трактар „Клетрак" працуе на Заслаўскім балоце.

што для цэлага раду культур (авёс, каноплі, фасоля) лепшая норма 30% калійнай солі (неабходнай ва ўмовах бел. гаспадаркі) 15—18 пудоў на дзес. Даныя мінулага году даюць наступнае. Досьлед зроблены з бульбаю.

| Колькасьць унесенай калійнай солі | Ураджай у цэнтн. з гэктару | Тое-ж у % % адносна кантрольнай |
|---|---|---|
| 9 п. . . . | 167 | 265 |
| 12 „ . . . | 192 | 305 |
| 18 „ . . . | 247 | 392 |
| 24 „ . . . | 267 | 492 |
| Кантрольная . | 63 | 100 |

Бульба, як відаць, дае прыбаўку ўраджаю ў залежнасьці ад нормы калійнай солі. Група клубне-караньплодаў патрабуе шмат калія і мае сваю норму ў 21—24 пуды на дзесяціну.

Дзеля таго, што бульба—культура, якую можна засяваць у першы год асушкі балота, дык угнаеньне—24 пуд. калійнай солі значна павялічвае ўраджай і зьяўляецца добрай запраўкай тарфяніка. Адсюль вывад,—нормы калія трэба ўжываць у залежнасьці ад групы культур; у адным выпадку трэба норму памяншаць—для зернявых, а ў другім павялічваць—для клубне-караньплодаў і траў.

Незалежна ад роду культуры запас калія, як угнаеньне, адначасна не скарыстоўваецца. Уплыў яго на ўраджай відаць з наступнай табліцы:

| Час, у які рабіўся досьлед | Ураджай на дзесяціну ў пудох | | |
|---|---|---|---|
| | Віка-авёс | Лугавая мешаніна | Кантрольная |
| 1-ы год ўгнаеньня . . . | 269 (100%) | 335 (100%) | 1.125 (100%) |
| 2-і „ „ . . . | 240 ( 89%) | 282 ( 84%) | 674 ( 60%) |
| 3-і „ „ . . . | 156 ( 58%) | 227 ( 66%) | — |
| 4-ы „ „ . . . | — | 94 ( 28%) | — |

Вельмі характарна, што ўраджаі пачынаюць зьніжацца ўжо на другі год пасьля ўгнаеньня, але гэтае зьніжэньне для траў невялікае (11—16%), у той час, як для бульбы досыць значнае (40%).

На трэці год рэзка зьмяншаецца і ўраджай траў, вызначаючы сабою мяжу, бо ў далейшым ураджайнасьць набліжаецца да ўраджайнасьці няўгноеных балот.

З вышэйсказанага выцякае, што для атрыманьня вялікіх і выгадных ураджаяў калійнае ўгнаеньне трэба класьці пад кожны кораньплод, дакладней штогод. Магчыма, праўда, і двухгадовае карыстаньне ўгнаеньнем, але ўжо за лік зьмяншэньня ўраджайнасьці, асабліва бульбы.

Уплыў калійнай солі выяўляецца і пры павярхоўным угнаеньні штучнай сенажаці. На спэцыяльным дасьледчым вучастку было атрымана.

| | Па ўгноен. | Без угнаеньня |
|---|---|---|
| 1. На другі год карыстаньня . . . | 100% урадж. | 76% урадж. |
| 2. „ трэці „ „ . . . | 100% „ | 37% „ |

З табліцы відаць, што на трэці год ураджай, дзякуючы адсутнасьці калія, рэзка зьмяншаецца. Штогодняе ўнясеньне калія, шляхам павярхоўнага ўгнаеньня, падтрымоўвае ўраджайнасьць сенажаці. Так, пачынаючы з 1924 г. адзін з дасьледчых вучасткаў (з слабай асушкай), пры штогоднім угнаеньні, даваў наступныя ўраджаі на дзесяціну.

| 1924 г. | 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. | 1928 г. |
|---|---|---|---|---|
| 368 п. | 324 п. | 335 п. | 340 п. | 275 п. |
| (100%) | (93%) | (95%) | (91%) | (81%) |

На працягу пяці год мы бачым, што ўраджайнасьць трымаецца амаль што на аднэй вышыні, за выключэньнем толькі апошняга году. Але і тут памяншэньне ўраджаю было, галоўным чынам, як вынік няспрыяючых мэтэоролёгічных умоў лета.

Такім чынам ясна, што штучнай сенажаці, штогодні зварот спажыўных матэрый неабходны. Сярэдняя норма для калія, у залежнасьці ад вытворчасьці сенажаці, 15—18 пуд. 30% калійнай солі на дзесяціну.

Падсумоўваючы вышэйсказанае можна вызначыць:

1. Распаўсюджаны тып нізінных балот патрабуе, у паасобных выпадках (як, напр., Лукаўскі балотны масыў), толькі калійных угнаеньняў, тады, як фосфару маецца свой натуральны запас. Дзеля таго што пры культуры балот мінэральнае ўгнаеньне мае вялікае гаспадарчае

значэньне, дык патрэба яго павінна быць дасьледавана для кожнага масыву паасобна.

2. Балоты, якія ўгноены ў дастатковай меры і па норме, даюць ураджай у 3-4 разы большы, чымся няўгноеныя. Норма калія ў выглядзе 30% калійнай солі для зернявых культур 15—18 пуд. на дзес., для корань-клубне-плодаў і траў—21—24 пуд.

3. Унесены ў тарфянік калі спажываецца культурамі першага году ня ўвесь, а застаецца запас, які мае ўплыў і на далейшы ўраджай. Аднак, зьмяншэньне ўраджаю, якое пачынаецца ўжо з другога году, яскрава і выразна патрабуе ўнясеньня калія пад кожны корань (штогод).

4. Штучныя сенажаці абавязкова трэба штогод угнайваць парашкамі (мінэральным угнаеньнем). Норма калійнай солі 15—18 пудоў на дзесяціну.

А. Шохар.

Забалацкая Балотная Дасьледчая Гаспадарка.

---

# Мэліарацыйныя справы на Магілеўшчыне.

У гэтым годзе па Магілеўскай акрузе назіраецца недастатковае выкананьне плянавых заданьняў наогул і асабліва ў басэйнах р.р. Ухлясьці і Варанінай, Быхаўскага раёну. Прычынай гэтаму зьяўляецца недахоп рабочай сілы.



Падрыхтоўка балот да пасеву ў 2-м Старобінскім мэліарацыйным таварыстве.

Недастаткова разгорнуты мэліарацыйныя работы па выкананьні заданьняў з боку камуны імя Фрунзэ і калгасаў: „Расьсьвет“, „Антонаўка“, „Шаеўка“, „Глупікі“, а таксама ў басэйнах адрэгуляваных вадапрыёмнікаў.

Акрземаддзел і райвыканкомы з свайго боку не праявілі дастатковае ўвагі да арганізацыі спэцыяльных таварыстваў з беднаты і на разгортваньне мэліарацыйных работ на тых балотных вучастках, якія былі забраны ад некаторых мэліарацыйных таварыстваў з прычыны адмовы іх ад правядзеньня мэліарацыйных работ. Гэтыя недахопы трэба цалкам аднесьці да недастатковага кіраўніцтва і нагляду з боку акрземаддзелу і райвыканкомаў акругі, у сувязі з чым маюцца выпадкі разбурэньня насельніцтвам, пасьбаю жывёлы, мэліарацыйных пабудоў.

На гэта зьявішча адпаведна не рэагавалі ні самі мэліарацыйныя таварыствы, ні сельсаветы, ні райвыканкомы.

Выходзячы з усяго вышэйпералічанага—Прэзыдыум Акрвыканкому запрапанаваў Быхаўскаму, Бялыніцкаму, Крычаўскаму і Лупалаўскаму райвыканкомам, на тэрыторыях якіх вызначаны да выкананьня буйныя мэліарацыйныя работы, прыняць усе належныя меры да шырокай вярбоўкі рабочых на памянёныя работы, з мэтаю поўнага забясьпечаньня выкананьня работ, прадугледжаных плянам на бягучы год.

Акрземаддзелу, сумесна з Акркалгассаюзам, Крычаўскаму і Чачэвіцкаму райвыканкомам, паказана на неабходнасьць прасачыць за поўным выкананьнем мэліарацыйнага пляну вышэйпаказанай камуны і калгасаў, а таксама безадкладна разгарнуць мэліарацыйныя работы там, дзе апошнія яшчэ не разгорнуты.

Улічваючы шырока разгорнутую работу па мэліарацыі ў Быхаўскім раёне, невыкананьне плянавых заданьняў таварыствамі, АВК запрапанаваў акрземаддзелу камандыраваць у паказаны раён аднаго працаўніка для агульнага кіраўніцтва і нагляду за ходам мэліарацыйных работ, а таксама за выкананьнем таварыствамі плянавых заданьняў.

Паказана акрземаддзелу на неабходнасьць у тэрміновым парадку ажыцьцявіць кампэнсацыю за выкананыя мэліарацыйныя работы ў ранейшы час насельніцтвам у басэйнах рэк—Ухлясьці і Варанінай, Быхаўскага раёну, на вучастках, якія ў сучасны момант адышлі ад іх у дзяржлугфонд, вытвараючы выдаткі з адпушчаных у гэтым годзе сродкаў на работы па дзяржлугфонду. У зьвязку з гэтым даручана земаддзелу паставіць пытаньне перад НК Земляробства аб дасылцы зараз-жа неабходных для гэтай мэты грошай.

Бяручы пад увагу, што да гэтага часу яшчэ няпрынята ніякіх мер да ўзысканьня кошту скошанага лугу з кулацка-заможнай часткі тых вёсак, ад якіх адабраны забалочаныя плошчы, за адмаўленьне ад мэліарацыйных работ і галоўным чынам па раёнах: Быхаўскаму і Лупалаўскаму—запрапанована земаддзелу і райвыканкомам прыняць усе меры да безадкладнага ўзысканьня грошай, а таксама ўзысканьня прысуджаных сродкаў за выкананьне гідратэхнічных досьледаў балот і складаньне праэктаў, якія (сродкі) скарыстаць у бягучым годзе на правядзеньне мэліарацыйных работ на тых вучастках, за якія гэтыя сродкі спагнаны.

У сувязі з тым, што некаторыя вучасткі, прыкладна ў Быхаўскім раёне ў басэйне р. Ухлясьці, ліквідаванага Ветрынскага мэліарацыйнага таварыства і ў басэйні ракі Рудзея, Лупалаўскага раёну і ўзятыя ад таварыстваў і перададзеныя пад мэліарацыйныя работы насельніцтву—АВК запрапанаваў зямельнаму аддзелу і райвыканкомам прыняць меры да арганізацыі на гэтых вучастках спэцыяльных таварыстваў з бедняты, аказваючы ім у правядзеньні мэліарацыйных работ належную дапамогу.

Прымаючы пад увагу налічча значна падрыхтаванай плошчы інтэнсыўна абсушанага балота, колькасьць якой яшчэ будзе значна павялічана ў бягучым годзе—Акрвыканком ставіць пытаньне перад Наркамземам аб накіраваньні ў Магілеўскую акругу трактарнай калёны ў ліку чатырох трактароў і неабходнай колькасьці для вясеньняй пасяўной кампаніі мінэральных угнаеньняў пад культуры балот.

С. Л.

# Лішак вільгаці—вораг сенажаці.

Першы вораг сенажаці—гэта лішак вільгаці, макрата. А хто з гаспадароў ня ведае, што мурожная сенажаць—лепшая за балотную. Мурожнае сена мяккае, пахучае і жывёла яго вельмі любіць. А балотная трава хоць і вялікая, але рэдкая, сака цьвёрдая, нясмачная. Балотнага сена жывёла больш пад ногі накідае, чым зьесьць. А калі ашукваць жывёлу, даючы ў выглядзе сечкі балотнае сена, дык з гэтага няма карысьці: малака будзе мала і жывёла захварэць можа.

Трэба зрабіць, каб ня было лішку вільгаці на балоце, каб вада не стаяла, а зьбягала. Дзе сенажаць каля рэчкі, дык трэба паглядзець ці не загачана дзе вада загарадамі на рыбу або так завалена ломам, гальлём, а то зарасла травою. У нас яшчэ да гэтага часу шмат ёсьць сенажацяй, якія раскіданы вузкімі шнурочкамі і толькі канцамі прымыкаюць да рэчкі. Тут аднаму гаспадару ўзяцца за справу, нельга, гэту справу можна наладзіць толькі грамадой. Калі ўзяцца грамадою, то можна скора пачысьціць рэчкі. Другі пасьля лішняе макраты вораг сенажаці—эта мох.

Дзе сенажаць мохам парасла, там добрая мурожная трава глушыцца. Пад мохам ані сонца зямлі не дагрэе, ні паветра да зямлі ня дойдзе. Пад мохам зямля, як вопратка ў скрынцы, цэлыя гады непрасушаная. Пад мохам зямля прэе-кісьне. Як толькі зямля кісьне, тады добрая, смачная трава прападае. Астаецца толькі нягодная: хвошч, шчаўлюк, асака. Другую крыўду сенажаці робіць мох вось якую: пакрыўшы зямлю як кажухом, ён не дапускае да зямлі ніводнага зярняці. Усе лепшыя мурожныя травы, як дзятліна, растуць на адным месцы год-два. Каб-жа яны зусім не зьвяліся, трэба, каб зярняты высыпаліся на зямлю ды ўсходзілі, а калі-ж сенажаць пакрыта мохам, дык хоць і высыпаецца зярнятка, а ўзысьці яно ня можа, бо за мохам яно зямлі не дастане так і прападзе, лежачы на версе.

Як-жа змагацца з мохам. Першая рэч—асушыць сенажаць, бо мох расьце толькі пры макраце. Калі вы паглядзіце на стрэхі ад поўдня, дзе сонца страху сушыць, дык моху ані званьня, а ад поўначы, усе стрэхі пад мохам. Раз убіўшыся, мох доўга трымаецца, тады трэба яго зьвесьці бараною. Баранаваць можна ўвесну, калі сенажаць адтае, пальцаў на два-тры, а глыбей лёд. Баранаваць трэба і ўдоўжкі і ўпоперак жалезнай бараною. Ёсьць для гэтага спэцыяльныя бароны, але-ж калі няма такой, то добра яе замяніць і звычайнай, жалезнай бараной. Павыдзераны мох, калі яго добра прабярэ сонца і вецер, можна пасабіраць і падсьцілаць ім хлявы. Трэба баранаваць сенажаць да тых пор, пакуль яна ня стане аж чорная, чаго баяцца ня трэба, бо гэта толька паляпшае сенажаць.

**Бяляўскі.**

# Адказ сяброў калгасу „Чырвоны Кастрычнік“ Пятрыкоўскага раёну на правакацыю кітайскіх белабандытаў.

Мы, сябры калгасу „Чырвоны Кастрычнік“, заслухаўшы даклад тав. Фрыдмана на агульным сходзе нашага калгасу ад 25 жніўня 1929 году аб беззаконных і бандыцкіх падзеях на К.-У. ч. і нападах на нашу тэрыторыю, адказваем:

1. Што мы сябры калгасу пратэстуем супроць наглага нападу кітайскіх мілітарыстаў на К.-У. ч. і нашу тэрыторыю.

2. Кітайскім белабандытам ня ўдасца іхняя правакацыйная мэта, выклікаць наш Савецкі Саюз на крывавую бойню і сарваць наша мірнае сацыялістычнае будаўнінтва.

3. Мы сябры калгасу „Чырвоны Кастрычнік“ будзем усімі сіламі ўзмацняць сваю калектыўную гаспадарку і адначасова будзем гатовы па першаму выкліку нашага Савецкага ўраду ўзяць аружжа ў рукі і даць належны адпор сусьветнай буржуазіі.

4. Мы, сябры калгасу, уносім аднадзенны свой заробак на абароназдольнасьць нашай краіны: за 30 сяброў па 60 кап. у дзень і за 2-х сяброў па 1 руб., а усяго 20 руб. і выклікаем калгасы нашага раёну пасьледваць нашаму прыкладу.

Адначасова шлем пракляцьце сусьветнаму імпэрыялізму, які хоча парушыць нашае мірнае сацыялістычнае будаўніцтва.

Няхай жыве ўсясьветны пралетарят, які стаіць на варце захаваньня заваёў Кастрычніка!

Няхай жыве камуністычная партыя, якая вядзе нас па шляху мірнага сацыялістычнага будаўніцтва!

Няхай жыве Чырвоная армія—абаронца працоўных!

**Сябры калгасу.**

---

# Калектыўная здача хлеба.

Бядняцка-серадняцкае сялянства Рыжкаўскага сельсавету ў адказ на актыўнае наступленьне на працоўных Кітайска Усходняй-чыгункі і наогул на імкненьне ўцягнуць наш Саюз у вайну, адказвае калектыўнай здачай хлеба ў каапэрацыю. Гэтым яно даказала, што гатова ў любую мінуту пайсьці на абарону заваёў Кастрычніка. Дзякуючы падрыхтоўчай працы ўсяго вясковага актыву Рыжкаўскага сельсавету, удзел у гэтай працы прынялі ўсе арганізацыі, партыйная і комсамольская ячэйкі, настаўніцтва, а таму ёсьць і вынікі. Па ўсяму сельсавету мяркуецца здаць хлеба 2 тысячы пудоў.

Рыжкаўскі сельсавет, шляхам спаборніцтва паміж вёскамі і асобнымі гаспадаркамі, выканаў ускладзеную на яго задачу. Бедната гэтага сельсавету зьяўляецца застрэльшчыкам здачы лішкаў у каапэрацыю. Адзін бядняк Яўсеяў, з вёскі Хоцімкі, унёс 5 пудоў і выклікаў сваіх суседзяў, якія ў сваю чаргу не адставалі і ўносілі па магчымасьці. Цесна з беднатою Рыжкаўскага сельсавету ідзе і серадняк. Адзін серадняк Усьцінаў Панас з вёскі Шнараўка ўнёс 10 пудоў і выклікаў іншых, якія таксама падтрымалі яго.

**Г. Шумілаў.**

---

Адк. рэд. **П. Рачыцкі.** Рэдактар—**Рэдкалегія.**

**ЦАНА 20 КАП.**



# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА

—) НА (—

# „Шляхі Каляктывізацыі“

**Часопіс каляктывізацыі, вытворчага с.-г. каапэраваньня і агранамізацыі насельніцтва.**

**Выданьне Наркамзему, Белкалгассаюзу і Белсельсаюзу БССР.**

У 1929 годзе (пачынаючы з ліпеня месяца) выходзіць раз у месяц (выдаецца замест ранейшага часопісу „Плуг“, выданьня НКЗБ).

У 1930 годзе мяркуецца выдаваць двухтыднёвік, памерам 48—56 старонак.

Часопіс **„Шляхі Каляктывізацыі“ ставіць сваёй мэтай у папулярнай** форме адбіваць шляхі каляктывізацыі сельскай гаспадаркі БССР як праз вышэйшыя формы вытворчага аб'яднаньня—камуны, арцелі, так і простыя—рознага віду таварыствы.

**Задачы часопісу „Шляхі Каляктывізацыі“**—згуртаваць увагу ўсяго бядняцка-серадняцкага сялянства вёскі на шляху сацыяльна-тэхнічнай рэвалюцыі ў сельскай гаспадарцы, заснаванай на электрычнай машыне, на трактары і г. д.

Значнае месца адводзіцца ў часопісу павышэньню с.-г. ведаў насельніцтва і тэхнічным парадам, абгрунтаваным на навуковых даных і мясцовых досьледах.

Часопіс зьвязан з практычнай працаю каапэрацыйных аб'яднаньняў, з Інстытутам Сялян-Дасьледчыкаў і перадавым актывам вёскі:

У часопісу прымаюць удзел:

Працаўнікі калгасаў, прафэсары і навуковыя працаўнікі Беларускай С.-Г. Акадэміі і Беларускага Навукова-Дасьледчага Інстытуту імя У. І. Леніна, спэцыялістыя Наркамзему БССР, настаўнікі, сяляне-дасьледчыкі і інш.



**Падпісная плата на 1929 г.**

| | |
|---|---|
| На 6 месяцаў | 1 р. 10 к. |
| „ 3 „ | — 60 „ |
| Паасобны нумар | — 20 „ |
| На год (6 нумароў „Плуга“ і 6 нумароў „Шляхі Каляктывізацыі“ | 2 р. 20 к. |

Падпісчыкам „Плуга“ да канца 1929 г. будзе высылацца часопіс „Шляхі Каляктывізацыі“.

**Падпісная плата на 1930 г. (мяркуецца):**



| | |
|---|---|
| За год 24 нумары | 3 р. 10 к. |
| „ паўгода 12 нум. | 1 р. 75 „ |
| На тры месяцы | — 90 „ |
| Паасобны нумар | — 20 „ |

Ёсьць камплекты „Плуга“ за ранейшыя гады. Цана камплекту 1 р. 10 к.

Адрас рэдакцыі: Менск, Савецкая 71, НКЗБ.